# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ



BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

BULK RATE US POSTAGE PAID ADA, MI Permit No 47

№ 9 (11) Кастрычнік 1994 October Год выд. 2


## «ГЭТА ТОЛЬКІ ПАЧАТАК КАНФРАНТАЦЫІ?..»

"ЛіМ"

ПАЧАЛА ПРАЦУ XVI СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Апошні раз мне давялося бачыць гэты высокі сход у час інаўгурацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі, і ўсё, што адбывалася тады ў Авальнай зале, пакінула двaістае ўражанне. З аднаго боку, уразіла ўрачыстасць моманту — усё-такі прысягаў на вернасць народу першы ў гісторыі краіны прэзідэнт. Што ні кажы, а падзея гістарычная. У той жа час нельга было не заўважыць, што немалая частка дэпутацкага корпусу знаходзілася ў стане, блізкім да шокавага. І гэта таксама было ўвогуле зразумела — пераважная большасць нардэпаў паставіла ў прэзідэнцкай гонцы на В. Кебіча і была яго ўнушальным паражэннем дэмаралізавана. Відаць, гэтай акалічнасцю і можна вытлумачыць адносную лёгкасць, з якой прэзідэнту ўдалося атрымаць падтрымку Вярхоўнага Савета пры фарміраванні новага Кабінета міністраў, у які ўвайшлі многія члены яго каманды. Адыграліся дэпутаты толькі на адным з бліжэйшых паплечнікаў прэзідэнта — Д. Булахаве, кандыдатуру якога на пасаду старшыні Канстытуцыйнага суда яны пракацілі.**

Усё гэта адразу ўспомнілася ў першы дзень працы чарговай XVI сесіі Вярхоўнага Савета. Як павядуць сябе дэпутаты цяпер, ці будуць шукаць згоды з прэзідэнтам, з новым урадам або, наадварот, стануць на шлях канфрантацыі з імі? На жаль, ужо праз гадзіну стала відавочным, што ў зале пераважаюць настроі, якія лаяльнымі да прэзідэнцкай улады назваць цяжка. Вядома, хапала і дэпутатаў, якія, як і раней, дэманстравалі поўную апатыю да ўсяго, што адбывалася ў зале, але затое актыўнасць асобных дэпутатаў, іх чэргі ля мікрафонаў прымусілі пераканацца ў тым, што А. Лукашэнку давядзецца сустрэцца ў парламенце з жорсткай, можна нават сказаць, непрымірымай апазіцыяй з боку, даруйце за таўталогію, апазіцыі БНФ і часткі дэпутатаў, якія яе падтрымліваюць. Магчыма, па задуме апанентаў прэзідэнта, гэта была толькі разведка боем, але напал многіх выступленняў сведчыў аб сур'ёзных намерах у першы ж дзень работы сесіі перахапіць у прэзідэнта і ягонай каманды, уключаючы Кабінет міністраў, ініцыятыву, блакіраваць усе іх прапановы і наогул зрабіць так, каб Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка адчуваў сябе ў парламенце, як на гарачай патэльні.

Адсюль і прапанова лідэра апазіцыі Зянона Пазняка прыняць на гэтай сесіі закон аб прэзідэнце, які, на думку прамоўцы, ужо неаднойчы парушаў Канстытуцыю, у прыватнасці, самім фактам стварэння сваёй адміністрацыі, не прадугледжанай ніякімі заканадаўчымі актамі. Адсюль і прагучаўшая пагроза амаль ужо прафесійнага выкрывальніка ў сценах парламента нардэпа С. Антончыка «выступіць на сесіі з дакладам аб карумпаванасці прэзідэнцкага асяродка». На надта выбіраў словы ў папроках прэзідэнта адзін з актыўнейшых дзеячаў апазіцыі А. Голубеў.

Але, дзеля справядлівасці, нельга не сказаць і таго, што некаторыя пасажы, якія гучалі з процілеглага боку, таксама, «паветра не азанiравалі», шакіравалі сваёй прэтэнцыёзнасцю, непрыхаваным імкненнем прынізіць ролю Вярхоўнага Савета.

Нечакана вострая спрэчка ўзнікла вакол прапанаванага парламенцкай Камісіяй па галоснасці і правах чалавека парадку асвятлення работы сесіі ў сродках масавай інфармацыі. Як вядома, у часе работы мінулых сесій (гэта ўжо стала амаль традыцыяй) па радыё, у прамым эфіры, цалкам трасліраваліся ўсе выступленні ў «Розным», у тым ліку, вядома, і дэпутацкія запыты. На гэты раз камісія, кіруючыся невядома якімі меркаваннямі, вырашыла раздзел «Рознае» з прамой трансляцыі выключыць. «Навацыя» гэтая многімі дэпутатамі была ўспрынята, як спроба «заткнуць ім раты», пазбавіць адзінай трыбуны, з якой дэпутаты-дэмакраты могуць звяртацца да народа. Не ўсё ў гэтых сцвярджэннях адпавядала ісціне, не сакрэт, што многія выступленні ў «Розным» насілі, кажучы па-руску, «сиюминутный» характар, вызначаліся драбнатэм'ем, і, тым не менш, усё гэта не з'яўлялася падставай для скасавання радыётрансляцыі з «Рознага». Масла ў агонь падліў сам прэзідэнт, які, узяўшы слова, не знайшоў нічога лепшага, як папярэдзіць дэпутатаў, што не пацерпіць іх умяшання ў дзейнасць тэлерадыёкампаніі, якая з'яўляецца дзяржаўнай структурай і поўнасцю падначалена яму, прэзідэнту, як кіраўніку выканаўчай улады. Гэтую заяву А. Лукашэнкі многія дэпутаты расцанілі, і, заўважым, небеспадстаўна, як замах на свабоду слова, спробу ўвесці цэнзуру і г. д.

Як спробу звузіць, а то і наогул адсячы некаторыя функцыі Вярхоўнага Савета было ўспрынята прэзідэнцкае пасланне парламенту, у якім яму рэкамендавалася зняць з абмеркавання некаторыя пытанні, уключаныя ў парадак дня сесіі. Сярод іх такія, як прыняцце законаў аб спажывецкай кааперацыі, бухгалтарскім уліку, аб архівах і архіўнай справе, аб жыллёвым кодэксе і некаторыя іншыя. Матывы гэтага, магчыма, былі ў некаторай ступені слушнымі (законапраекты яшчэ «сырыя», новы ўрад павінен выпрацаваць свае падыходы да гэтых праблем, каб прынятыя пасля прэзідэнцкія ўказы насілі канкрэтны характар), але былі выказаны, як справядліва заўважыў дэпутат У. Грыбанаў, у зняважлівай у адносінах да дэпутатаў форме. У рэшце рэшт, Вярхоўны Савет, паводле Канстытуцыі, сам вырашае, якія пытанні знаходзяцца ў яго кампетэнцыі. «Гэта толькі пачатак канфрантацыі», — са скрухай падсумаваў прамоўца ўсё, што адбывалася ў гэты дзень у Авальнай зале, і заклікаў калег, прэзідэнцкі бок не паддавацца эмоцыям, шукаць шляхі да згоды...

Вось такое ўражанне ад пачатку работы сесіі. Нічога суцяшальнага, тым больш, калі ў вушах гучаць лічбы, прыведзеныя Старшынёй Вярхоўнага Савета М. Грыбам у яго ўступным слове — за 9 месяцаў гэтага года нацыянальны даход у рэспубліцы ў параўнанні за адпаведным перыядам мінулага года знізіўся на 27 працэнтаў, цэны на харчовыя і прамысловыя тавары, а таксама на паслугі насельніцтву ўзраслі ў 24,8 раза.

Вярхоўны Савет павінен абмеркаваць прэзідэнцкую праграму вываду краіны з эканамічнага крызісу. Будзем спадзявацца, што яна ўселіць у нас хоць якую-небудзь надзею на лепшае.

**М. ЗАМСКІ**

## ДЭПУТАТАМ ПАТРЭБЕН ЗАКОН «АБ ПРЭЗІДЭНЦЕ»

"Звязда"

Учора парламент з невялікай перавагай галасоў прыняў рашэнне аб уключэнні ў парадак дня законапраектаў «Аб прэзідэнце» і «Аб Вярхоўным Савеце».

Нагадаю, што яшчэ ў другой палове дня ў аўторак дэпутаты пачалі абмяркоўваць прапанову Зянона Пазняка прыняць Закон «Аб прэзідэнце». Цікава, што лідэра Народнага фронту падтрымалі многія члены фракцыі «Беларусь». Былое праўрадавае дэпутацкае аб'яднанне пасля змены кіраўніцтва рэспублікі знаходзіцца ў аморфным стане. Можна нават сказаць, што самая вялікая фракцыя распалася. Большасць былых яе членаў зараз у скрытай апазіцыі да прэзідэнта.

Дэпутат Леўчык заявіў на сесіі, што «нам не трэба канфліктаваць з прэзідэнтам, а трэба сачыць, каб ён выконваў Канстытуцыю». Сапраўды, цяжка крытыкаваць Лукашэнку, які перамог з такім ашаламляльным поспехам. Але ж і агульную мову «старая гвардыя» з новаи камандаи не заўседы знаходзіць.

Дарэчы, па гэтай прыкмеце і адбываецца раскол у калісьці магутнай «Беларусі». Тым, хто застаўся без пасад, губляць няма чаго. Напрыклад, былы камандуючы пагранічнымі войскамі генерал Яўген Бачароў распавёў, як несправядліва абышоўся прэзідэнт з пагранічнымі войскамі, як неабгрунтавана і некарэктна звальнялі з камандных пасад афіцэраў. Бачароў заявіў, што ніколі спецслужба пагранвойск не сачыла за прэзідэнтам. «Я пайду і буду тлумачыць людзям, што вашы метады няправільныя», — сказаў Яўген Бачароў. Генерал Валерый Паўлаў, які таксама застаўся без пасады пасля змены ўрада, на пытанне аглядальніка «Звязды», дзе ён зараз працуе, жартоўна адказаў, што ён пойдзе намеснікам да Бачарова ў «Камітэт па тлумачэнню памылковасці палітыкі прэзідэнта».

Крыху іншую пазіцыю займаюць тыя, хто разлічвае захаваць пасады пры новым кіраўніцтве. Напрыклад, старшыня Магілёўскага аблвыканкома дэпутат Грынёў па сутнасці выступіў у падтрымку свайго земляка, які стаў прэзідэнтам. Што датычыцца дэпутатаў ад БНФ, то яны пакуль не ў такой жорсткай апазіцыі да прэзідэнта, як да былога ўрада. Па-першае, Народны фронт выконвае заяўлены ім прынцып «100 дзён» і не крытыкуе прэзідэнта да 21 кастрычніка. Па-другое, пэўны аптымізм выклікае ў БНФ эканамічная праграма ўрада, якая будзе зачытана Лукашэнкам сёння. Але пры ўсім тым БНФ не мае намеру даваць прэзідэнту «царскія» паўнамоцтвы. Зянон Пазняк заявіў, што калі не будзе закона «Аб прэзідэнце», то «ўлада будзе «без берагоў». Заклік Лукашэнкі падумаць аб будучыні і праявіць грамадзянскую свядомасць не знайшоў водгуку. 180 дэпутатаў прагаласавалі за ўключэнне ў парадак дня законапраекта «Аб прэзідэнце», а заадно -- «Аб Вярхоўным Савеце». Дарэчы, гэтыя законы яшчэ трэба напісаць.

Не менш цікавым будзе абмеркаванне закона аб парламенцкіх выбарах. Калі раней толькі дэпутаты нацыянал-дэмакратычных поглядаў выступалі за правядзенне выбараў часткова па партыйных спісах, то зараз ужо многія дэпутаты аб'яднання «Беларусь» выказваюцца за змешаную, мажарытарна-прапарцыянальную сістэму. Відаць, іх непакоіць тое, што выбары ў парламент могуць адбыцца пад кантролем прэзідэнта Лукашэнкі, калі яны будуць праходзіць, як і меркавалася раней, па аднамандатных акругах і калі будзе ўведзена прэзідэнцкая «вертыкаль» выканаўчай улады. Так нечакана абаронцамі дэмакратыі сталі тыя, хто ў свой час уводзіў пасаду прэзідэнта пад канкрэтную асобу. Сам Лукашэнка адназначна выказаўся за мажарытарную сістэму выбараў.

Між іншым, дэпутаты вырашылі ў апошнія паўгода існавання гэтага Вярхоўнага Савета не перапрацоўвацца і будуць засядаць праз два тыдні на трэці, ды і то ўсяго чатыры дні.

**Ігар СІНЯКЕВІЧ.**

## А ЦІ ПРАЎДА, ШТО...

"ЗВЯЗДА"

**Старшыня Праўлення Нацыянальнага банка рэспублікі Станіслаў Багданкевіч пацвердзіў некаторую неафіцыйную інфармацыю, да якой звярталася прэса. У тым ліку:**

### АБ НОВАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ВАЛЮЦЕ, СХАВАНАЙ У ПАДВАЛАХ НАЦБАНКА

Станіслаў Антонавіч пацвердзіў, што сапраўды ў падвалах Нацыянальнага банка захоўваюцца надрукаваныя грошы, так званы новы «беларускі рубель». Ён не мае нічога агульнага з цяперашнімі беларускімі разліковымі білетамі, можа толькі тое, што будзе мець хаджэнне на тэрыторыі рэспублікі. Праўда, гэта здарыцца не раней, чым праз год. Мяркуючы па ўсім, новы «рубель» з'явіцца ў кашальках грамадзян толькі пасля таго, як эканоміка рэспублікі паправіць сваё здароўе і выйдзе на ўзровень інфляцыі 7 працэнтаў у месяц, а то і менш.

### АБ РАЗМЕРКАВАННІ МІЖНАРОДНЫХ КРЭДЫТАЎ

Станіслаў Антонавіч паведаміў, што на сённяшні дзень Еўрапейскім банкам рэканструкцыі і развіцця прынята рашэнне аб выдзяленні для падтрымання сярэдняга і малога бізнесу сумы ў 30 мільёнаў амерыканскіх долараў. Гэтыя грошы паступяць у тры найбольш устойлівыя беларускія банкі — «Прыорбанк», «Беларусбанк» і «Белбізнесбанк», якія потым змогуць імі распарадзіцца.

Сусветны банк, калі яго кіраўніцтва і ўрад рэспублікі змогуць дагаварыцца, мае намер выдзеліць 70 мільёнаў долараў. У адваротным выпадку мы атрымаем толькі 15 мільёнаў.

Галоўны банкір таксама пацвердзіў: прыкладна 200 мільёнаў долараў нашых бізнесменаў знаходзяцца на дэпазітах у заходніх банках. Яшчэ 200 мільёнаў долараў — на карэспандэнцкіх рахунках і такая ж сума выдадзена ў крэдытах.

### АБ ПЕРСПЕКТЫВАХ ВАЛЮТНАГА ГАНДЛЮ НА ТЭРЫТОРЫІ РЭСПУБЛІКІ

Паводле сцвярджэння галоўнага банкіра, ужо ў бліжэйшыя месяцы рэспубліканскі гандаль пяройдзе на ажыццяўленне ўсіх плацяжоў толькі пры дапамозе нацыянальнай валюты. Ролю апошняй часова павінны будуць выканаць беларускія разліковыя білеты, якія плануецца на сесіі прызнаць адзіным законным плацежным сродкам на тэрыторыі Беларусі.

Мяркуючы па ўсім, у рэспубліцы пачне дзейнічаць расійская гандлёвая мадэль: усім валютным магазінам прыйдзецца пераарыентавацца на «зайчыкаў» і адначасова выдзеліць месца для абменнага пункта. Таму што ні адным указам не прымусіш багатага чалавека насіць за сабой набітыя «звяркамі» дыпламаты замест кашалькоў з «баксамі».

BELARUSIAN DIGEST
Беларускі Дайджэст
1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546
USA.
Phone: (616) 942-0108

Publisher & Editor -- Nikolas Prusky
Выдавец і рэдактар -- М. Прускі

Артыкулы і дапісы могуць выяўляць пагляды, зь якімі рэдакцыя не згаджаецца.

Адкрыты ліст "НАБАТ"

## Прэзыдэнту і прэзыдэнцкай камандзе, ураду і парлямэнту Рэспублікі Беларусь

**Шаноўныя спадары і таварышы!**

**За апошнія гады мне спадобілася неаднойчы даводзіць у друку, што наша беларуская эміграцыя, аб'яднаная самахвоць на беларускай ідэі, мае чалавечую годнасць, гонар і ёсць не што іншае, як частка народа і нацыі, якую мы з вамі цяпер прадстаўляем. Праведзены з'езд беларусаў свету. Хто не згубіўся ў свеце, пачаў часцей наведваць Бацькаўшчыну, аднаўляючы ў памяці і сэрцы сваяцтва.**

**Здавалася б, тут усё добра.**

**Аднак, гаворачы пра сваяцкія і кроўныя сувязі нашай дзяржавы са сваёй дыяспарай за мяжой, хачу звярнуць вашу ўвагу на адну недарэчнасць. Мы яе, гэтую частку тутэйшага рода, практычна не прызнаём за сваю радню і ставім на адну дошку з чужакамі, пра што красамоўна сведчаць законы.**

**І вось глядзіце, што атрымліваецца на геапалітычнай карце свету.**

Злучаныя Штаты Амерыкі, напрыклад, сцягваюць з усёй кулі мазгі і для люду, у якім зацікаўлены, ствараюць належныя ўмовы. Тое ж робяць іншыя дзяржавы. А мы нават сваіх суайчыннікаў, якія па розных абставінах і пакручастых звівах лёсу аказаліся ў эміграцыі, не можам, як людзі, прыняць ды прывеціць. Ці варта падкрэсліваць, што яны прайшлі там адмысловую вывучку, цывільную ўвогуле і рынычную ў прыватнасці, умеюць працаваць не горш ад нас, маюць багатую практыку, разнастайныя здольнасці, глыбокія веды і жаданне, жаданне падзяліцца сваім вопытам з намі на Бацькаўшчыне. Добра, што яны яшчэ не забыліся на сваю Радзіму.

Але чаму б нам не стварыць для іх умовы, трохі больш прэстыжныя, чым для любога іншага прыхадня ці госця з-за мяжы? Сапраўды... Чаму беларус, які за акіянам шмат гадоў пакутаваў па роднай зямлі, прыехаўшы нарэшце сюды, не можа атабарыцца, купіць, скажам, кватэру, хату, сядзібу, кавалак зямлі?.. Чаму пры вырашэнні падобнага пытання нам трэба патрабаваць конча, каб /у нашых жудасных умовах жыцця/ ён адразу адмовіўся ад таго грамадзянства, з якім таксама спалучана частка яго жыцця, ягонай натуры? Ці ёсць у гэтакай нашай нацыянальнай нібыта палітыцы бацькаўскі клопат і нейкая дзяржаўная мудрасць? На мой погляд, няма ні таго, ні другога.

І таму, вядома, наша дыяспара, робячы штораз свае візіты на зямлю бацькоў, адчувае, што зямелька тут яшчэ не адтаяла — у твар дзьме-падзімае холадам.

як ёй, спакутаванай і зняверанай, у гэтых умовах паводзіць сябе?.. Уявім сябе ў яе скуры, пракорі! Дзе і на чым эміграцыя яшчэ больш можа сцвердзіць сябе, як не на адраджэнні сваёй дзяржавы, інстытутаў дэмакратыі, рыначнага механізму эканомікі, добрага ладу і духоўнасці.

Сёння ж яна жыве спадзяваннямі на блізкі ці няблізкі той дзень, калі на палітычным небасхіле краіны з'явіцца хтосьці, хто зразумее яе боль і тугу, яе апрабаваныя жыццём ідэалы, адкрые ім шлях да здзяйснення. А ідэалы, яны чалавечыя, дальбог, ім спачуваюць у свеце.

Стаўлю перад вамі, шаноўныя дзеячы, палітыкі, юрысты і эканамісты пытанне: ці не наспеў час змяніць сацыяльна-палітычныя і эканамічныя варункі прыёму нашых землякоў з-за мяжы?

Ці здольны ў гэтым выпадку ўрад на канкрэтныя дзеенні?

І ці мае тут быць чынным спадар прэзідэнт?

А калі ўсё ўпіраецца ў закон, які па непаразуменні пакладзены ўпоперак жыцця?.. У такім выпадку ці не будзе мець ласку Вярхоўны Савет на сваёй бліжэйшай сесіі ўнесці ў той закон пэўныя папраўкі?

Настойваю! Вядома, калі вы прызнаеце рацыю ў маіх меркаваннях.

Спадзяюся на ўвагу.

**Васіль ЯКАВЕНКА,**
**пісьменнік,**
**прэзідэнт БелСаЭС "Чарнобыль",**
**сябра рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына".**

## *Рэабілітацыя сувэрэнітэту пачалася?*

НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

### Аднолькавыя вынікі дзьвюх розных прэс-канфэрэнцыяў

Алег ГРУЗЬДЗІЛОВІЧ
аглядальнік "Народнай газэты"

Амаль адначасова прайшлі прэс-канферэнцыі міністра замежных спраў Уладзіміра Сянько і кіраўніка прэс-службы прэзідэнта Аляксандра Фядуты. Розніца ў часе паміж гэтымі мерапрыемствамі складала ўсяго гадзіну, таму, скончыўшы размаўляць з міністрам, журналісты вымушаны былі менавіта бегчы на іншае, не менш важнае спатканне. Высветлілася, што не дарэмна. Бо толькі пры параўнанні гэтых размоў можна зрабіць некаторыя істотныя высновы. Мы вернемся да іх у нашым каментарыі, які чытач знойдзе ніжэй. А спачатку цытаты.

**Вось што сказаў Уладзімір Сянько:**

**— аб палітыцы ранейшага ўрада ў адносінах да Расіі**

— Тая палітыка зрабіла вельмі негатыўны імідж Беларусі, бо ўвесь свет бачыў, што аб'яднанне грашовых сістэм, так як яно планавалася, з ліквідаваннем нашага Нацыянальнага банка, вяло да інкарпарацыі Беларусі ў Расію.

**— аб гэтай палітыцы новага кіраўніцтва**

— Не трэба разглядаць нашы адносіны з Расіяй як нейкую канстанту. Галоўнае, што мы пачынаем з іншай філасофіяй падыходзіць да эканамічных адносін з Расіяй. Мы ўжо не разлічваем на тое, што Расія нам нешта будзе даваць задарма.

**— аб апошніх публікацыях пра Беларусь у расійскім друку**

— Падчас размовы з расійскім паслом Сапрыкіным я давёў да яго ведама, што нас вельмі абурыў артыкул у суботнім нумары газеты "Известия", дзе фактычна зневажаюцца наш прэзідэнт, нашы дзяржаўныя сімвалы, суверэнітэт. Нас вельмі хвалюе, што ўвогуле ў расійскім друку ўмацоўваецца такая хваля антыбеларускіх публікацый. Я ўпэўнены, што мы маем права і нават абавязак звярнуць на гэта ўвагу палітычнага кіраўніцтва Расіі.

**— аб нашым суверэнітэце і тэарэтычнай магчымасці рэанімацыі СССР**

— Асабіста ў мяне толькі самыя прыемныя пачуцці ад таго, што Беларусь — незалежная дзяржава. Распад Саюза быў гістарычным працэсам, мы ўжо прайшлі этап, калі Саюз яшчэ магчыма было неяк рэфармаваць. Зараз гэта адышло ў тэорыю... У нас ёсць стопрацэнтны палітычны суверэнітэт, але з эканамічнага пункту гледжання ён абмежаваны, што ўплывае і на палітыку.

**А вось меркаванні і адказы Аляксандра Фядуты на найбольш істотныя пытанні журналістаў:**

**— аб сітуацыі вакол нашай запазычанасці Газпраму**

— Кабінет міністраў прымае меры па выплаце запазычанасці. У бліжэйшы час будзе ўведзены рэжым жорсткай эканоміі паліўна-энергетычных рэсурсаў. Робіцца ўсё, каб утрымаць курс беларускага рубля да расійскага рубля і да долара ЗША.

**— аб суверэнітэце дзяржавы**

— Пазіцыя прэзідэнта па захаванню дзяржаўнасці Рэспублікі Беларусь добра вядомая. Прэзідэнт адназначна выступае за захаванне Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь, падпарадкаванне яго дзяржаве. Галоўнае, каб неабходнасць такіх крокаў разумеў не толькі прэзідэнт, але і народ.

**— аб заяве А.Лукашэнкі аб прыпыненні з 1 верасня росту цэн**

— Ёсць рэчы, якія і ў мяне выклікаюць пытанні. Магчыма, гаворка ішла аб неабгрунтаваным павышэнні цэн, якое ідзе не ад росту сабекошту...

**— аб лёсе дзяржаўных газет**

— Пытанне яшчэ разглядаецца. У тым ліку і тое, якая газета будзе прэзідэнцкай. Тут мала аднаго жадання прэзідэнта...

**— аб звестках пра падрыхтоўку ўказа па скасаванню некаторых ільгот**

— Прэзідэнт цікавіўся становішчам з ільготамі. Высветлілася, што мы дзяржава льготнікаў — рознымі льготамі ў нас карыстаецца больш паловы насельніцтва. Але я не ведаю, ці рыхтуецца гэты ўказ.

**— аб адносінах прэзідэнта да святкавання ўгодкаў бітвы пад Оршай**

— Не ў кампетэнцыі прэзідэнта забараняць тыя мерапрыемствы, якія дазволіў Мінгарвыканкам. Але, па маіх назіраннях, прэзідэнт негатыўна ставіцца да гэтага факта. На маю думку, і тыя, хто звяртаецца да прэзідэнта з патрабаваннем забараніць, і хто праводзіць святкаванне, — усе мараць, каб яго забаранілі. Было б неразумна паддацца на гэтую правакацыю...

### Наш каментарый.

Згадзіцеся, з'явілася новая лексіка ў такім, здавалася б, простым пытанні, як адносіны Беларусі з Расіяй. І гэта невыпадкова. Калі новая адміністрацыя на Беларусі толькі прыйшла да ўлады, было відавочна, што менавіта адносіны з усходнім суседам будуць нясучай часткай у канструкцыі дзяржавы, якую плануецца пабудаваць. Што мы назіраем зараз на прыкладзе тых спроб па-новаму абмаляваць асабістае стаўленне прэзідэнта да дзяржаўнага суверэнітэту, якія дэманструюць члены ўрада і асобы, набліжаныя да прэзідэнта? Падобна, ім даручылі нялёгкую справу хутчэй падкарэкціраваць некаторыя не вельмі ўдалыя выказванні прэзідэнта па расійскім тэлебачанні. Яны гэта робяць з розным вынікам ва ўласцівай ім манеры. А журналістам застаецца рабіць здагадкі наконт таго, што яны назіраюць, — сапраўдную крыўду за атрыманыя абразы, расчараванне людзей, што кляліся ў дружбе, але не былі зразуметыя, ці, магчыма, маюць рацыю тыя, хто сцвярджае: перамовы з Расіяй па газу зайшлі ў тупік, грошай няма, а разлічвацца застаецца адным — суверэнітэтам...

Не будзем такімі катэгарычнымі, пачакаем з канчатковым адказам. Адзначым: дагэтуль усходняя палітыка новага кіраўніцтва, па сутнасці, мала адрознівалася ад палітыкі папярэдняга ўрада, а па часткі запэўніванняў на самым высокім узроўні нават давала ёй фору. Вынікам такога курсу і стаў крызіс, які мы назіраем зараз. Афіцыйныя асобы дагэтуль стараліся аб ім маўчаць, але за справу ўзялася свабодная расійская прэса, і рэагаваць прыйшлося. Аднак вядома, што з крызіснага становішча шляхам нот і заяў не выйсці. Чым канкрэтна напоўняць новую філасофію адносін з Расіяй прадстаўнікі новай адміністрацыі?

## НЯМЕЦКІ ДЭБЮТ УЛАДЗІМІРА СЯНЬКО

"ЗВЯЗДА"

***Германія стала першай краінай, якую наведаў Уладзімір Сянько ў якасці міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь. Аб ходзе рабочага візіту Уладзімір Лявонавіч расказаў у эксклюзіўным інтэрв'ю карэспандэнту Белінфарма.***

**— Уладзімір Лявонавіч, наколькі вядома, ваш візіт у Германію адбыўся па запрашэнню федэральнага міністра замежных спраў ФРГ Клаўса Кінкеля. Ці азначае гэта, што Германія надае асаблівае значэнне развіццю двухбаковых адносін з нашай рэспублікай?**

— Сапраўды, гэта цікавы факт. Тое, што федэральны міністр замежных спраў ФРГ Кінкель запрасіў мяне з рабочым візітам, гаворыць аб тым, што Германія імкнецца да наладжвання міралюбівых і, перш за ўсё, канструктыўных адносінаў з новымі незалежнымі дзяржавамі, у тым ліку і з нашай рэспублікай. Пан Кінкель, несумненна, хацеў пазнаёміцца са сваім новым калегам і ад яго даведацца, якая пазіцыя нашага прэзідэнта і ўрада наконт далейшага развіцця рэспублікі, як ідзе фарміраванне новага Кабінета Міністраў, абмеркаваць шэраг іншых пытанняў. У сваю чаргу, я таксама хацеў расказаць міністру аб тым, якая сітуацыя склалася ў Беларусі, што прымаецца новым урадам для паляпшэння сацыяльна-эканамічнага становішча ў краіне. У ходзе сустрэчы я яшчэ раз адзначыў, што курс беларускага прэзідэнта і ўрада можна вызначыць як рашучы, але асцярожны. Думаю, што наш дыялог атрымаўся даволі канструктыўным.

**— У свой час многа гаварылі аб быццам бы «прагерманскай» палітыцы нашага ўрада. Што б вы маглі сказаць наконт гэтага?**

— Павінен сказаць, што ніякіх «пра» мы ўвогуле не імкнёмся праводзіць. Тым не менш, нельга не ўлічваць той факт, што Германія сапраўды мае сёння вялікую вагу ў Еўропе, ды і не толькі. Таму вопыт гэтай краіны заслугоўвае пільнага вывучэння. З гэтым нельга не пагадзіцца.

**— У ходзе рабочага візіту была падпісана сумесная заява аб развіцці адносін ФРГ і Рэспублікі Беларусь у розных сферах. Наколькі мне вядома, да гэтага часу спачатку падпісваліся нейкія канкрэтныя пагадненні, а потым ужо «шырокамаштабныя» дакументы.**

— Так, мы падпісалі сумесную заяву, якая вызначае асноўныя напрамкі развіцця адносінаў паміж нашымі краінамі ў палітычнай, эканамічнай і культурнай сферах, а таксама ў пытаннях аховы навакольнага асяроддзя. Як бачыце, гэта заява вызначае вельмі шырокі спектр нашых узаемаадносінаў. Але галоўнае, што яна з'яўляецца нібы той базай, дзякуючы якой можна будзе ажыццяўляць вельмі многія канкрэтныя праекты.

Дарэчы, на цырымоніі падпісання гэтай заявы Клаўс Кінкель сказаў, што закладзены шырокі і трывалы фундамент будучага супрацоўніцтва дзвюх краін. Пры гэтым ён падкрэсліў, што Рэспубліка Беларусь адыгрывае істотную ролю ў пытаннях бяспекі і стабільнасці не толькі ў рэгіёне, але і ва ўсёй Еўропе.

**— Вядома, што федэральны міністр таксама заявіў аб тым, што ўрад ФРГ будзе прыкладаць намаганні для неадкладнага падпісання Еўрапейскім саюзам і Рэспублікай Беларусь дагавора аб кааперацыі і партнёрскіх адносінах. Што азначае для нас падпісанне гэтага дакумента?**

— Я ўжо гаварыў, што Германія мае вельмі вялікі аўтарытэт у свеце. І гэта, несумненна, будзе садзейнічаць падпісанню дадзенага дагавора, а праз яго — інтэграцыі нашай эканомікі ў еўрапейскую, павелічэнню аб'ёмаў экспарту прадукцыі беларускіх вытворцаў на еўрапейскі рынак і імпарту ў нашу рэспубліку. Акрамя таго, у ходзе перагавораў мы таксама абмяркоўвалі важную для рэспублікі праблему — празмерна высокі ўзнос Беларусі ў ААН, перш за ўсё на правядзенне міратворчых аперацый. Зменшыць яго — справа архіскладаная. І ўсё ж гэта пытанне вырашаць трэба, і мы ў яго вырашэнні будзем таксама спадзявацца на падтрымку Германіі.

**— Якія першыя канкрэтныя беларуска-германскія праекты будуць пасля візіту?**

— Пан Кінкель паабяцаў, што будзе садзейнічаць адкрыццю ў Мінску германскай гандлёвай палаты. Акрамя таго, у ходзе перагавораў ён паабяцаў арганізаваць падрыхтоўку спецыялістаў нашага ведамства ў Германіі за кошт нямецкага боку. Для нас гэта таксама вельмі важна.

**— У ходзе перагавораў ішла размова аб тым, каб правесці беларуска-германскія перагаворы на вышэйшым узроўні?**

— Так. Магу сказаць, што мы дагаварыліся з панам Кінкелем аб яго візіце ў рэспубліку пасля выбараў у Германіі, якія пройдуць 16 кастрычніка. У час яго, магчыма, і будуць абмеркаваны ўсе пытанні, звязаныя з арганізацыяй візітаў на вышэйшым узроўні.

**— І апошняе пытанне. Уладзімір Лявонавіч, у Германіі вы заявілі, што Беларусь падпіша натаўскую праграму «Партнёрства дзеля міру». Калі гэта адбудзецца?**

— Думаю, што ў бліжэйшай будучыні.

**— Дзякуй за інтэрв'ю.**

**Аляксандр ЛЮШКЕВІЧ, Белінфарм.**

### Кепскія жарты з гуманітарнай дапамогай...

**У Менск на адрас сталічнай філіі Саюзу палякаў Беларусі паступіла гуманітарная дапамога.**

Старшыня філіі вырашыў, што на грузе можна будзе няблага зарабіць. Ён наняў грузавік, каб вывезьці й прадаць атрыманую гуманітарную дапамогу, але ў выніку апынуўся за кратамі.

*Інэса Драбышэўская:*

# "Пажадаем адзін аднаму здароўя"



*Яшчэ адна жанчына з'явілася ў новым Кабінеце Міністраў нашай рэспублікі. На гэты раз прадстаўніцы "слабага полу" даверана міністэрства, якім заўсёды кіравалі толькі мужчыны. Магчыма, ноша лічылася вельмі цяжкай, бо здароўе грамадзян рэспублікі — тое, без чаго праблематычная будучыня самой нацыі.*

*Такім чынам, новы міністр аховы здароўя — Інеса Міхайлаўна ДРАБЫШЭЎСКАЯ. Родам з Гомельшчыны, з тых мясцін, якія агароджаны зараз калючым дротам чарнобыльскай зоны. Урач–анколаг, больш як дваццаць гадоў працавала ў Гомельскім абласным анкалагічным дыспансеры, паспяхова ўзначальвала яго. Народны дэпутат рэспублікі. Яе гарачыя, шчырыя і вельмі вострыя выступленні на сесіях, напэўна, запомніліся тым, хто ўважліва сочыць за парламенцкімі дэбатамі. Чароўная і прыветлівая жанчына, жонка, маці дарослай дачкі. У сваім характары дзіўна спалучае мяккасць і цвёрдасць, адрозніваецца аналітычным розумам, мае шмат сяброў, у тым ліку былых яе пацыентаў. У перадвыбарнай камандзе першага прэзідэнта Беларусі ДРАБЫШЭЎСКАЯ не лічылася, але з Аляксандрам ЛУКАШЭНКАМ знаёмая з першых дзён сумеснай дэпутацкай работы, хоць у дыскусіях яны іншы раз і разыходзіліся ў поглядах. Паводле яе ўласных слоў, згадзілася на новую цяжкую і вельмі няўдзячную работу таму, што верыць у прэзідэнта, лічыць яго чалавекам мэтанакіраваным, стойкім, добрым, які ўмее пастаяць за ідэю, чалавекам, жадаючым пранесці нашу дзяржаву над безданню максімальна бязбольна. Не дапамагчы яму ў гэты цяжкі час было б, паводле яе пераканання, здрадніцтвам.*

**— Інеса Міхайлаўна, за тыдзень, вядома ж, цяжка азнаёміцца падрабязна са станам спраў у ахове здароўя рэспублікі. Але Вы доўгі час былі медыкам-практыкам і арганізатарам адначасова. А таму, напэўна, уяўляеце, якую «спадчыну» атрымалі.**

— ДыягНаз несуцяшальны: ахова здароўя хранічна хворая з-за кансерватыўнасці яе арганізацыі. Індэкс здароўя грамадзян катастрафічна пагаршаецца, нягледзячы на расшырэнне кіраўніцкіх структур галіны на усіх узроўнях — ад міністэрства да раённых аддзелаў аховы здароўя. Лекаў па-ранейшаму не хапае, медыкаменты архідарагія. Перашкаджае і сфарміраваны гадамі стэрэатып: і ахова здароўя і лячэнне хворых — справа аховы здароўя. Хоць на самай справе і ва ўсіх цывілізаваных краінах гэта стала аксіёмай, бо ахова здароўя — прыярытэт дзяржавы. Гэта і экалогія, і ахова працы на прадпрыемствах, і адпачынак, і харчаванне... Медыкі ж павінны дапамагаць тым, чыё здароўе па розных прычынах пагоршылася, прычым, дапамагаць своечасова і кваліфікавана. Дарэчы, ёсць зусім свежы прыклад таго, што традыцыя раўнадушных адносін да здароўя грамадзян, народжаная некалі ў нетрах таталітарнай дзяржавы, паспяхова дажыла да нашых дзён. У Гродна ў ліпені і жніўні адбыліся ўспышкі кішэчнай інфекцыі. Першая — з-за продажу прахаладжальных напояў Гродзенскага віназавода без дазволу санітарнай службы. Другая — з-за рэалізацыі малака і малочных прадуктаў са скончаным тэрмінам прыгоднасці. І грамадзяне запасаліся на доўгі час, апасаючыся падаражання, і гандаль спадзяваўся "пагрэць" рукі на розніцы ў цэнах. Медыкі з успышкай спраўляюцца, але патрэбна дзяржаўная гарантыя немагчымасці паўтарэння падобнага. А яна будзе толькі пры наяўнасці адпаведнага працуючага заканадаўства.

**— Вы сказалі:"дапамагаць хворым своечасова і кваліфікавана". Але сёння гэтаму перашкаджае і адсутнасць грошай у бюджэце дзяржавы, і дарагоўля медыкаментаў...**

— Гэтымі фактарамі, як шчытом, няўмелыя арганізатары аховы здароўя часта прыкрываюць сваё бяссілле і бяздушнасць, прывычку да стэрэатыпаў, невуцтва, нарэшце. Занадта шмат чыноўнікаў "ад аховы здароўя" развялося ў нас. Бо хто напрамую адказвае за здароўе жыхароў раёна: вядома, галоўны ўрач раёна. У вобласці — галоўны ўрач вобласці і гэтак далей. Пры чым тут чыноўнік з упраўлення пры мясцовай уладзе? Дык, можа, гэтыя прамежкавыя структуры ў тым выглядзе, у якім яны сёння існуюць, проста не патрэбныя? У тым ліку і само "раздутае" занадта Міністэрства аховы здароўя? Акрамя таго, як гэта ні парадаксальна, перашкаджае арганізацыі аховы здароўя прынятыя парламентам Закон аб мясцовым самакіраванні. Згодна з ім, мясцовыя ўлады ўсіх узроўняў самі распараджаюцца бюджэтнымі сродкамі, у тым ліку і адпушчанымі на патрэбы аховы здароўя. А, як вядома, хто плаціць, той і заказвае музыку. І раённы, і абласныя аддзелы аховы здароўя, закліканыя ажыццяўляць дзяржаўную палітыку ў галіне, часта прыходзяць да палітыкі мясцачковай. Гэта значыць, нават агульнарэспубліканскія праграмы на месцах выконваюцца ў залежнасці ад адносін да іх мясцовага начальства. Міністэрства можа ў такой сітуацыі толькі рэкамендаваць, прасіць... Яшчэ парадокс: звольніць нават дрэннага начальніка аховы здароўя міністэрства без згоды мясцовых улад не можа.

**— Спрашчэнне гэтай чыноўніцкай вертыкалі ў ахове здароўя ўваходзіць у вашы планы?**

— Я не хацела б ужо гаварыць пра планы. Скажам так: ёсць наметкі, але праблему трэба сур'ёзна вывучыць, сабраць думкі спецыялістаў, вучоных, каб зноў не аказацца на руінах, што ў гісторыі і былой і нашай маленькай дзяржавы было ўжо не раз. Бо канчатковая мэта любой рэарганізацыі ў нашай галіне — паляпшэнне лячэбна-дыягнастычнага працэсу, пазбаўленне ад навіслага над беларусамі дамоклавага мяча сардэчна-сасудзістых і анкалагічных захворванняў, ажыццяўленне праграм, звязаных з мацярынствам і дзяцінствам. Больш канкрэтна магу гаварыць аб рэарганізацыі работы навукова-даследчых інстытутаў. Сёння ў іх заняты і навуковыя супрацоўнікі, і ўрачы-лячэбнікі. Прычым, з каласальнай розніцай у зарплаце і льготах на карысць лячэбнікаў. А чаму б не сумясціць лячэнне канкрэтных людзей з распрацоўкай навуковай тэматыкі? І прыклады такія ёсць. Скажам, доктар навук Віктар Залуцкі, які распрацаваў новыя методыкі ў хірургіі, паспяхова працуе загадчыкам аддзялення ў Рэспубліканскім НДІ анкалогіі і медыцынскай радыялогіі. Пры гэтым фундаментальныя даследаванні ў медыцыне застануцца. Затое клінікі не будуць расчленены на, груба кажучы, вучоных-невучоных. Загадзя прадбачу навалу абурэння з гэтай нагоды. Але гатова абмяркоўваць гэтую праблему з любым зацікаўленым спецыялістам.

**— Карацей кажучы, Вы настроены на кардынальную рэформу ў беларускай ахове здароўя?**

— Паўтараю, я не люблю сячы па жывому, але руціны не пацярплю. Трэба вызначыць прыярытэты галіны і распрацаваць дакладную сістэму іх рэалізацыі. З улікам, вядома, абмежаванай колькасці сродкаў. Ну, а калі АВА "Фармацыя", напрыклад, зусім не апраўдвае свайго прызначэння, не можа талкова выкарыстаць дзяржаўныя крэдыты і мірыцца з першынством камерцыйных структур у забеспячэнні лекамі, то прыйдзецца перагледзець яе функцыі і прызначэнне.

Другі прыклад. Я адмяніла загад майго папярэдніка аб стварэнні на базе клінікі Беларускага НДІ радыяцыйнай медыцыны ў Аксакаўшчыне новага НДІ — эндакрыналогіі і абмену рэчываў. Інстытут такога накірунку, вядома ж, патрэбен быў яшчэ ўчора. Але паколькі праблема па шчытападобнай залозе ў рэспубліцы вырашаецца сумесна з замежнымі вучонымі на базе ўжо існуючых НДІ — Цэнтра па лячэнню пухлін шчытавіднай залозы, які ўзначальвае прафесар Дзямідчык, ужо названага НДІ радыяцыйнай медыцыны, Рэспубліканскага эндакрыналагічнага дыспансера, — то ствараць базу новага інстытута ў цяперашняй эканамічнай сітуацыі было б проста няправільна. Тым больш, расчляняючы па жывому існуючы інстытут. Хоць на перспектыву ўжо распачаты напрацоўкі па рэарганізацыі і аб'яднанню існуючых НДІ пад праблемы эндакрыналогіі. Акрамя таго, хопіць нам навукі дзеля навукі, хопіць даваць справаздачу колькасцю кандыдатаў і дактароў. Трэба, каб навука дапамагала практычнай ахове здароўя мабільна рэагаваць на любую ўзнікшую ў рэспубліцы сітуацыю. У прыватнасці па Чарнобылю, бо рэкамендацый вучоных па мінімізацыі вынікаў катастрофы да гэтага часу, на жаль, крайне мала.

**— Інеса Міхайлаўна, ці можаце Вы назваць галоўную праблему, з якой сутыкнуліся ў ходзе знаёмства з апаратам міністэрства і не вырашыць якую ў бліжэйшы час проста немагчыма?**

— Пытанне даволі каверзнае, але я на яго ўсё ж адкажу. Мы прасачылі серыю неабгрунтаваных закупак па імпарту ў такіх аб'ёмах, што разабрацца ў гэтым будзем прасіць адпаведны орган па барацьбе з карупцыяй пры адміністрацыі прэзідэнта рэспублікі. Хоць некаторыя фірмы ўжо вымушаны вярнуць частку валюты па кантрактах з-за неабгрунтаванага завышэння цэн. Вельмі непрыемна было б пачынаць сваю работу ў міністэрстве і з праблемы скарачэння кадраў. Але за апошнія гады ў яго структуры ўзніклі, напрыклад, аддзелы, якія дубліруюць па функцыях галаўныя інстытуты нашай сістэмы. Трэба глядзець...

**— А ці ёсць у Вас, як кажуць, «свая каманда» ў міністэрстве?**

— Мае намеснікі таксама, як і я, былі прызначаны прэзідэнтам. Так што праблемы "прыціркі" непазбежныя. А ў цэлым міністэрства працаздольнае, загадчыкі ўпраўленняў прафесіянальна граматныя і кваліфікаваныя, хоць ёсць і такія работнікі, якія выклікаюць, мякка кажучы, здзіўленне. Хачу так зразумець калег, каб не страціць тых з іх, хто можа прынесці справе максімальную карысць, і не пакінуць баласт. Паўтараю, галоўную падставу рэарганізацыі і міністэрства, і нізавых звёнаў можна сфармуляваць так:"руцінная арганізацыя аховы здароўя не адпавядае патрабаванням дня".

**— Інеса Міхайлаўна, давайце адыдзем крыху ад размоў пра працу і ўспомнім, што ў Вас раптам узнікла нямала асабістых праблем: сям'я засталася ў Гомелі, Вам прыходзіцца пакуль жыць у гасцініцы, пакінуты калектыў, у якім Вы прапрацавалі 21 год... Адкуль сілы, энергія?**

— Так, сумую без родных і сяброў і нават брэх любімага сабакі Мілорда слухаю цяпер толькі па тэлефоне. Але родныя мой крок ужо зразумелі, сябры не асудзілі і ніколі не пакінуць, хоць слёз на развітанне было праліта мора. Што тычыцца сіл, то яны, напэўна, даюцца небам. Па гараскопу я Леў, маё імя азначае — бурная, рухавая, мой знак — Сонца, які азначае імкненне абагрэць, прынесці цяпло. Я веру ў Бога і вельмі ўдзячна Яго Высокапраасвяшчэнству Філарэту за благаславенне на новую работу. Хутка атрымаю службовую кватэру, але гэты факт зусім не азначае, што я адчуваю сябе тут часова. Колькі хопіць сіл, буду працаваць і прыносіць карысць дзяржаве. А потым усё роўна вярнуся ў родны Гомель.

Як міністр і маці я жадаю ўсім быць шчаслівымі самім і бачыць шчаслівыя твары сваіх здаровых дзяцей. І няхай сёння нам пакуль цяжка быць прыгожымі і ўсмешлівымі, дай Бог, каб наша заўтра было святлейшым!

**Гутарку вяла Лідзія ПЕРАСЫПКІНА, БЕЛІНФАРМ.**



"Мінская Праўда"

## *350 кіламэтраў у гадзіну. Па Беларускай чыгунцы*

Нам толькі даводзілася чытаць аб скорасных чыгунках. Як хутка ляцяць па іх пасажырскія паязды! Ледзь ці з самалётнай хуткасцю. Аднак не засмучайцеся, што ў нас а няма падобнага. У бліжэйшай перспектыве жадаючыя змогуць карыстацца і такімі паяздамі. І ўсё дзякуючы геаграфічнаму становішчу Беларусі.

На Захадзе ўмеюць лічыць грошы і бачыць сваю выгаду. Для іх найбольш рацыянальным і эканомным шляхам на ўсход з'яўляюцца дарогі нашай рэспублікі. Дык вось, замежныя бізнесмены «паклалі» вока на чыгунку. Так нарадзіўся праект транспартнага калідора «Берлін—-Варшава—Мінск—Масква». Згодна з ім, плануецца пабудаваць да 2005 года скорасную чыгунку ад Брэста да граніцы Расіі. На гэтым участку хуткасць паяздоў будзе даходзіць да 200 кіламетраў у гадзіну. А яшчэ праз пяць гадоў яе пераабсталююць, і скорасць дасягне звыш 350 кіламетраў.

На ўсё патрэбны вялікія грошы. Іх выдзяляе Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця. Наша Міністэрства транспарту ўжо атрымала 40 мільёнаў э.кю на рэканструкцыю ў 1994—1997 гадах 230-кіламетровага ўчастка Беларускай чыгункі. Хто будзе фінансаваць работы далей?

У пачатку верасня ў Мінску праходзіла рабочая нарада прадстаўнікоў вышэйназванага банка, а таксама Камісіі па транспарту Еўрапейскага саюза, іншых міжнародных арганізацый, транспартных ведамстваў Германіі, Польшчы, Расіі і Беларусі. Было падрыхтавана пагадненне аб будаўніцтве «транспартнага калідора» і ўмовах фінансавання работ.

*Пётр СІДАРОВІЧ.*

## Праз год — Алімпійскія гульні

Удзельнікі семінара-практыкума падвялі вынікі работы за мінулы навучальны год і вызначылі перспектыву на будучае. А перспектыва цікавая. Рэспубліка Беларусь летам 1995 года будзе самастойнай камандай у колькасці 35 чалавек прымаць удзел у летніх Алімпійскіх гульнях дзяцей-інвалідаў ў Н'ю-Хэвене (ЗША).

Ужо ёсць квота і зацверджаны віды спорту, ў якіх будуць удзельнічаць беларускія дзеці-інваліды. Гэта мастацкая і спартыўная гімнастыка, веласпорт, цяжкая атлетыка, тэніс, лёгкая атлетыка, плаванне, валейбол.

Валянцін ШУХ, прэзідэнт Беларускага Камітэта Спешыял Алімпікс. Міністэства адукацыі.

**На базе Рэспубліканскай спецыялізаванай дзіцяча-юнацкай школы алімпійскага рэзерву адбыўся семінар-практыкум. У ім бралі ўдзел настаўнікі фізічнай культуры, трэнеры, бацькі, адказныя работнікі міністэрстваў і ведамстваў, якія займаюцца фізічнай рэабілітацыяй дзяцей-інвалідаў і дзяцей з недахопамі разумовага і фізічнага развіцця па праграме беларускага Камітэта Спешыял Алімпікс.**

# Ці хутка беларуская прэса стане еўрапейскай?

□ Павел СІМАНАЎ, "ЧЗ"

*Адказ на гэтае пытанне на працягу двух дзён шукалі ўдзельнікі Еўрасемінара "Абавязкі, правы і сацыяльная абарона журналістаў", які адбыўся ў сталічным Міжнародным адукацыйным цэнтры.*

У госці да сваіх беларускіх калег прыехалі прадстаўнікі буйнейшых еўрапейскіх сродкаў масавай інфармацыі. Асноўная дыскусія разгарнулася вакол праблемы свабоды прэсы — палітычнай, фінансавай, творчай. Вось толькі некалькі меркаванняў:

**Доктар Георг Пауль Хэфці ("Франкфуртэр Альгемайне Цайтунг", Франкфурт):**

— Свабода прэсы не залежыць ад фінансавых магчымасцей і тыражу друкаванага органа. Гэта, перш за ўсё, магчымасць кожнага без якіх-небудзь папярэдніх умоў атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю. У Германіі з паняцця "свабода прэсы" вынікаюць і пэўныя абавязкі дзяржавы. Напрыклад, канстытуцыйны суд сочыць за тым, каб не было манаполіі на сродкі масавай інфармацыі, дзяржаве не дазваляецца ўмешвацца ў дзейнасць прыватных газет ці вяшчальных станцый. Аднак дзяржаўных субсідый прэсе ў Германіі не існуе.

**Спадар Бота Кірш ("Нямецкая хваля", Кёльн):**

— Журналістыка — небяспечная прафесія, прычым не толькі ва ўмовах дыктатуры, але і ў дэмакратычных краінах. Вось і я быў тройчы пад судом. У двух выпадках мяне апраўдалі, а ў трэці раз мне давялося заплаціць штраф. У дэмакратычных дзяржавах свабода друку — вышэйшая каштоўнасць, якая ахоўваецца канстытуцыяй і органамі юстыцыі. Журналісты карыстаюцца пэўнымі прывілеямі. У Германіі, напрыклад, лягчэй дабіцца адстаўкі міністра, чым звольніць з працы журналіста. Зразумела, свабода прэсы не застрахоўвае і ад злоўжыванняў. Яны заўсёды былі, і, пэўна, будуць.

**Спадар Тоні Робінсан ("Файнэшнл Таймс", Лондан):**

— Асновы асабістай свабоды і палітычнай дэмакратыі — абарона правоў уласнасці. Сацыялізм пачаўся крадзяжом уласнасці, а скончыўся крадзяжом волі.

Наша газета з'яўляецца "вачыма і вушамі" фінансавага свету, г.зн. сочыць за тым, каб захоўваліся правы ўласнасці. Роберт Максвел выкінуўся з борта сваёй яхты, таму што ведаў, што "Файнэшнл Таймс" збіраецца надрукаваць выкрывальныя матэрыялы супраць яго. **Спадар Франка Квінта (Італьянская Інфармацыйнае агенцтва):**

— У Італіі няма факультэтаў журналістыкі, кожны можа стаць журналістам, гэта значыць тут у нас больш свабоды. Патрэбна папрацаваць 18 месяцаў у якім-небудзь выданні, пасля чаго здаць кваліфікацыйныя экзамены. Звычайна пад час гэтых экзаменаў адсейваецца 65—70 працэнтаў. Аднак ёсць і іншая катэгорыя журналістаў — публіцысты, якія атрымліваюць прафесійную адукацыю.

* * *

Прадстаўнікі беларускіх выданняў, у асноўным, выказваліся па фінансавых і палітычных праблемах. Удзельнікаў семінара вітаў **Надзвычайны і Паўнамоцны пасол ФРГ спадар Г.Альбрэхт.** Закранаючы тэму дыскусіі, спадар пасол, у прыватнасці, зазначыў:

— Журналісты павінны заўсёды глядзець наперад. Калі яны пачынаюць глядзець назад, то становяцца ўжо не журналістамі, а гісторыкамі, прычым, як правіла, дрэннымі гісторыкамі. Спадар Альбрэхт адзначыў таксама, што гэта ўжо другі семінар журналістаў, які праводзіцца з дапамогай нямецкага боку, прычым цяперашняя імпрэза — значна больш прафесійная і дзелавая.

Еўрапейскі ўзровень семінара засведчылі і многія іншыя яго ўдзельнікі. Застаецца толькі спадзявацца, што журналісты нашай краіны — геаграфічнага цэнтра Еўропы "возьмуць на ўзбраенне" еўрапейскія традыцыі і ў штодзённай працы.

## Акадэмія навук разьвітваецца з "БССР"

**Прэзыдыюм Акадэміі навук Беларусі зьвярнуўся да Дзяржаўнай інспэкцыі па ахове гістарычна-культурнай спадчыны з просьбаю дазволіць даласаваць да цяперашняга назову надпіс на галоўным корпусе Акадэміі.**

На магутнай урачыстай каланадзе, што паўцыркульна выгнулася перад будынкам, бэтоннымі літарамі выкладзена: «Акадэмія навук БССР».

Былі сумневы, ці ня ёсьць гэтыя літары аўтэнтычнымі дэталямі дэкору. Між тым, на пабудаваным у 1934-1939 гг. паводле праекту слыннага Язэпа Лангбарда найпрыкметнейшым будынку Менска гэтага надпісу не было. Ён зьявіўся ўжо пасьля вайны. Самыя літары выкананыя ня дужа складана — бэтонам па арматуры, замацаванай на шрубах. На паўцыркульным фасадзе месца яшчэ чатыром літарам хопіць, прычым без парушэньня агульнага зрокавага ўспрыманьня. Таму Дзяржаўная інспэкцыя ў чэрвені дала дазвол на ўвасабленьне сапраўднага назову Акадэміі.

Між іншым, назва «Акадэмія навук Беларусі» гучыць канкрэтна й куды больш мілагучна, чым магчымы штамп: «Акадэмія навук Рэспублікі Беларусь» (а ў абрэвіятуры падобнае выглядала б увогуле пагрозьліва — АН РБ).

**Ян ГРЭЧЫЦ**

РЫГОР ЛАЗЬКО

# ХТО Ж ЗНІШЧЫЎ «ГРАМАДУ»?

"Беларуская Мінуўшчына"

Доўгі час гісторыя Заходняй Беларусі вывучалася аднабакова — як гісторыя рэвалюцыйнага руху — і з зададзеных ідэйных пазіцый. Сёння ў некаторых даследчыкаў ёсць жаданне расквітацца з вінаваўцамі гэтага гвалту над гістарычнай памяццю народа. У выніку такой эмацыянальнай рэакцыі ўзнікае другая небяспечная тэндэнцыя — да стварэння новых міфаў замест тых, якія абвяргаюцца.

Менавіта такая тэндэнцыя назіраецца ў артыкуле Л. Герасімава «Хто знішчыў сялянскую «Грамаду»? («Беларуская Мінуўшчына». 1993. N 2). Галоўнай ідэяй артыкула з'яўляецца тэзіс аб тым, што Беларуская сялянска-работніцкая грамада, якая ў межах Польскай Рэспублікі спрабавала дэмакратычным шляхам ісці да адраджэння беларускай дзяржаўнасці, была знішчана Кампартыяй Заходняй Беларусі з дапамогай Камінтэрна і чэкістаў. На наш погляд, гэта вельмі спрошчаная ацэнка. Заўважым, па-першае, што **не КПЗБ з дапамогай Камінтэрна знішчыла «Грамаду», а Камінтэрн, за якім стаяла кіраўніцтва ВКП(б), зрабіў гэта рукамі КПЗБ.**

Аналізуючы гэту праблему, нельга не ўлічваць агульную сітуацыю ў міжнародным камуністычным руху, тэндэнцыю да яго развіцця ў сярэдзіне 20-х гадоў. Але галоўная памылка аўтара — гэта адлюстраваная ў яго публікацыі ілюзія аб тых дэмакратычных магчымасцях, якія быццам бы існавалі ў 20-я гады ў Польшчы для барацьбы за незалежную беларускую дзяржаўнасць.

Уважлівы разгляд падзей 1918 — 1921 гг. на тэрыторыі Беларусі прымушае прызнаць, што польскія ўлады, якія ў іх выніку ўсталяваліся ў Заходняй Беларусі, не былі законнымі для беларускага народа. (Зрэшты, як і Савецкая ўлада — для насельніцтва Усходняй Беларусі.) **Польская дзяржава ў барацьбе за ўсталяванне сваіх межаў пасылала войскі на землі, дзе ўжо была абвешчана і спрабавала наладзіць дзяржаўнае жыццё Беларуская народная Рэспубліка. Тут не было палітычнага вакуума.** Польскі ўрад і кіраўнік дзяржавы Ю. Пілсудскі скарысталі з таго, што БНР не мела сіл, каб бараніцца ад расійска-бальшавіцкай экспансіі. Галоўнай мэтай польскай палітыкі было стварэнне вялікай дзяржавы шляхам адрыву ад аслабленай Расіі яе былых тэрыторый — ці ў форме іх анексіі, ці ў выглядзе стварэння залежных ад Польшчы нацыянальных дзяржаў. Ленін у 1919 годзе гатовы быў аддаць усю Беларусь у якасці платы за мір з Польшчай. У рэшце рэшт справа скончылася падзелам Беларусі ў выніку Рыжскага міру. **Пытанне аб Заходняй Беларусі было вырашана насуперак волі і інтарэсам беларускага народа.**

Гвалт, учынены над Беларуссю, і антыбеларуская *палітыка польскіх улад*, разгорнутая адразу ж пасля падпісання Рыжскага міру, сталі галоўнымі каталізатарамі актыўнага супраціўлення беларускага народа. Удзельнікі беларускай палітычнай нарады, скліканай у Празе ў верасні 1921 г., сярод якіх былі В. Ластоўскі, П. Крэчаўскі, А. Цвікевіч, В. Захарка, К. Езавітаў, дзечы з Заходняй Беларусі, паказалі, што польскія ўлады ажыццяўляюць жорсткую палітыку каланізацыі і апалячвання іхняга краю. З асаблівай горыччу ўспрымалася беларусамі рассяленне на іх землях так званых «асаднікаў» і закрыццё беларускіх школ. Пражская нарада заклікала «ўсе актыўныя беларускія сілы да самай рашучай рэвалюцыйнай барацьбы ўсімі наяўнымі ў іх распараджэнні спосабамі супроць падзелу Беларусі», за яе незалежнасць. Сярод гэтых спосабаў была і ўзброеная барацьба, *якая* пачалася яшчэ ў перыяд польска-савецкай вайны. Яе ўзначальвала партыя беларускіх сацыялістаў-рэвалюцыянераў, у той час найбольш уплывовая партыя на Беларусі. Асобныя атрады ствараліся камуністамі, пасланымі сюды з Савецкай Беларусі.

Арганізацыі камуністычнай партыі былі створаны ў Заходняй Беларусі ў пачатку 20-х гадоў польскімі камуністамі, якія вярталіся з Савецкай Расіі. Яны былі нешматлікімі і дзейнічалі толькі ў найбольш буйных гарадах. Які ўплыў маглі мець гэтыя групы, калі для многіх з іх было праблемай скласці лістоўку на беларускай мове?

1923 год стаў адным з пераломных этапаў у развіцці беларускага нацыянальнага руху. У пачатку гэтага года парог польскага сейма пераступілі 11 дэпутатаў, выбраных ад Заходняй Беларусі, і некалькі сенатараў. **Быў створаны беларускі пасольскі клуб.** Некаторыя з яго членаў у свой час належалі да кіруючага асяродка БНР — Б. Тарашкевіч, С. Рак-Міхайлоўскі, — а камітэт, які вёў передвыбарчую кампанію, узначальваў А. Луцкевіч. Сустрэтыя з непрыхаванай варожасцю большасцю дэпутатаў сейма, беларускія паслы, тым не менш, некаторы час спадзяваліся на магчымасць стварэння сістэмы самакіравання, надзялення сялян зямлёй, развіццём нацыянальнай культуры. Але надзеі на гэты эвалюцыйны шлях разбіваліся аб палітыку польскіх улад. Беларускія паслы папярэджвалі, што ў яе выніку ствараецца «прорва нянавісці» паміж беларускім, украінскім і польскім народамі.

Тым часам былыя калегі беларускіх паслоў з урада БНР, які асеў у Коўне, адзін за адным накіроўвалі пратэсты ў Лігу Нацый і на міжнародныя канферэнцыі супраць гвалтавання правоў беларускага народа. **Але ў сакавіку 1923 г. дзяржавы Антанты прызналі ўсходнюю мяжу Польшчы.** Следам за гэтым пачалася так званая «паласа прызнання» СССР краінамі Захаду. Рыжскі дыктат набыў *міжнароднае прызнанне*. Гэта стварала сітуацыю, у якой пытанне аб дзяржаўнасці Беларусі, нават у большай ступені, чым у 1919 — 1920 гг., *рабілася пытаннем двухбаковых* адносін СССР і Польшчы. **Адначасова яно было і пытаннем выбару для беларускіх палітыкаў, бо сіл, каб змагацца супраць дзвюх дзяржаў, не маючы істотнай міжнароднай падтрымкі, не было.**

У гэты ж час адбываліся важныя перамены і ў камуністычным руху. Але ў адрозненне ад змен у міжнароднай сітуацыі, здавалася, што яны спрыяюць беларускай справе. Увосень 1923 г. адбыўся 2 з'езд кампартыі Польшчы (КПРП), на якім яна адмовілася ад нігілістычнай пазіцыі па нацыянальным пытанні, выступіла за прызнанне права беларускага і ўкраінскага народаў на самавызначэнне і далучэнне іх да БССР і УССР. КПЗБ, як аўтаномная частка кампартыі Польшчы, пайшла яшчэ далей: увосень 1924 г. яна выказалася за падрыхтоўку ўзброенага паўстання з мэтай далучэння Заходняй Беларусі да БССР. Праўда, хутка гэта рашэнне было анулявана 3-м з'ездам КПП пры ўдзеле прадстаўнікоў Камінтэрна і КП(б)Б, але частка кіраўнікоў КПЗБ, так званая «сесія», і шэраг мясцовых арганізацый працягвалі прытрымлівацца яго да сярэдзіны 1925 г. Левыя дэпутаты беларускага пасольскага клуба, за выключэннем Б. Тарашкевіча, падтрымалі пазіцыю «сесіі». Нават А. Луцкевіч, які нярэдка крытыкаваў пазіцыю савецкіх улад на Беларусі, выступіў гарачым прыхільнікам ідэі паўстання з мэтай далучэння да БССР.

**Жорсткая рэчаіснасць, якая складвалася ў Заходняй Беларусі, яе няўхільная паланізацыя міжволі прымушалі гэтых людзей прыглядацца да таго, што робіцца ў другой палове краю — у Савецкай Беларусі.** А там прыносіла свой плён НЭП, жыццё людзей паляпшалася, значныя поспехі былі дасягнуты ў развіцці нацыянальнай культуры. Летам 1923 года была аб'яўлена амністыя ўдзельнікам беларускіх антысавецкіх арганізацый. У наступным годзе пачалася «беларусізацыя», тады ж рэспубліцы была вернута частка тэрыторыі, адабранай у яе ў 1919 годзе.

У асяродках беларускай эміграцыі ў Літве і Латвіі, у Празе, сярод нацыянальных дзеячаў у Вільні гэтыя перамены ўспрымаліся як прыкметы будаўніцтва на Усходзе «беларускага дома». Нялёгка было ў гэтых умовах рэалістычна ацаніць, наколькі *прынцыповымі* з'яўляюцца гэтыя змены ў палітыцы бальшавікоў адносна Беларусі. Некаторыя з беларускіх дзеячаў не схільны былі даваць ім веры. Т. Грыб, напрыклад, пісаў, што «за Менскам (*заўладаміБССР—Р.Л.*) стаіць сіла варожая — там стаіць мардасты кацап, поўны злобы і нянавісці да сепаратыстаў». У той жа час такі вопытны палітык, як Б. Тарашкевіч у сваім выступленні ў сейме супрацьстаўляў «годнае жалю» становішча беларусаў у Польшчы іх становішчу па другі бок мяжы. **Там «бальшавіцкі ўрад, хаця з вялікай цяжкасцю, але разам і з незвычайнай упартасцю, будуе новы дом беларускай дзяржаўнасці».** Да той самай высновы (і, што характэрна, — пасля сваёй паездкі ў БССР) прыйшоў В. Ластоўскі, нядаўні старшыня ўрада БНР. «Беларусы пад Польшчай праследуюцца як ніводная народнасць... — пісаў ён. — І, наадварот, разбудоўка Беларусі ў межах Радзянскай сувязі родзіць... натуральнае імкненне заходніх беларусаў да аб'яднання з Менскам».

Такім чынам, імкненне да аб'яднання не з'яўляецца выдумкай савецкай прапаганды, яго нельга не ўлічваць, разглядаючы ўмовы, у якіх стваралася Грамада, выпрацоўвалася яе праграма. І вось той самы Б. Тарашкевіч, які ў 1919 — 1920 гг. заклікаў да сумеснай з Польшчай барацьбы супраць Савецкай Расіі, за незалежную Беларусь, уступае ў кантакты са сваімі нядаўнімі праціўнікамі — бальшавікамі, летам 1925 г.,

## 3.138 БЕЛАРУСКІХ ШКОЛ БЫЛО Ў 1993 ГОДЗЕ. КОЛЬКІ ІХ ЦЯПЕР?

Сёння можна смела сказаць, што беларусізацыя навучальных установ, распачатая некалькі гадоў назад, нягледзячы на негатыўныя адносіны да яе асобных слаёў насельніцтва, прынесла свой плён. Ужо ў мінулым навучальным годзе з 4.924 школ па рэспубліцы 3.138 называліся беларускімі, а 1.529 школ лічыліся двухмоўнымі, з рускай і беларускай мовамі выкладання аднačасова. 257 сярэдніх агульнаадукацыйных навучальных установ адносіліся да рускіх. Найбольшы працэнт беларускіх школ у Гродзенскай і Мінскай абласцях. Праўда, у Мінску чыста беларускіх школ на той час як бы не было. Аднак з 216 усіх існуючых у 175 школах вялося выкладанне на роднай мове ў пачатковых класах. У Міністэрстве адукацыі спадзяюцца, што той расклад, які атрымаюць на 1 кастрычніка 1994 года, пацвердзіць думку аб выкананні мясцовымі Саветамі Закона аб мовах. Хоць некаторыя сумненні ўсё ж ёсць.

**Ганна ЛАГУН.**

“ЗВЯЗДА”

## ХУТКА ВЫЙДЗЕ Ў СВЕТ ДРУГІ ТОМ ГІСТАРЫЧНАЙ ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ

У 1993 годзе ў выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя» імя П. Броўкі быў выпушчаны першы том «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі». Кніга адразу ж набыла папулярнасць сярод чытачоў, бо гэта адзіная праца, у якой яе ствральнікі імкнуцца найбольш поўна, пры дапамозе апошніх дасягненняў навукі, адлюстраваць шматвяковы шлях беларусаў.

Карэспандэнт «Звязды» пацікавіўся ў загадчыка рэдакцыі гісторыі выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» Віталя Скалабана аб далейшым лёсе выдання. Звесткі абнадзейваюць. Матэрыялы другога тома ўжо знаходзяцца на паліграфічным камбінаце, і недзе ў кастрычніку кніга паступіць у продаж. Яе тыраж 20 тысяч экземпляраў, там змешчаны артыкулы на літары Б, В, Г.

**Сяргей ХРЫПАЧ.**

## БЕЛАРУСКІЯ ПАШПАРТЫ -- ШКОЛЬНІКАМ





Дзевяці навучэнцам сярэдняй школы № 37 горада Мінска ва ўрачыстай абстаноўцы ўручыў пашпарты новага ўзору міністр унутраных спраў Рэспублікі Беларусь генерал-маёр унутранай службы Юрый Захаранка. Другі пасля Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі пашпарт выдадзены выдатніку вучобы, адзінаццацікласніку Юрыю Чарняку.

НА ЗДЫМКАХ: з новым беларускім пашпартам **Юрый Чарняк**; міністр МУС **Юрый Захаранка** ўручае пашпарт **Вользе Юранавай.**

**Фота Анатоля ДРАЗДОВА.**

## І ЗНОЎ АБ СІМВОЛІЦЫ І МОВЕ

Рэспубліканскі Савет Руху за дэмакратыю, сацыяльны прагрэс і справядлівасць (РСПС) падтрымаў прапанову грамадскіх аб'яднанняў, што ўваходзяць у Народны рух Беларусі, пачаць у рэспубліцы збор подпісаў з мэтай правядзення аднačасова з выбарамі ў Вярхоўны Савет рэферэндуму па пытаннях перагляду цяперашняй дзяржаўнай сімволікі, надання рускай мове статуса дзяржаўнай нароўні з беларускай, а таксама аб ролі Беларусі ў стварэнні на добраахвотнай падставе саюза з Расіяй і іншымі брацкімі рэспублікамі.

“Добры Вечар”

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ, БелаПАН.**




“ЛіМ”

**Вельмі ўрачыста, у традыцыях еўрапейскіх універсітэтаў пачаўся першы дзень навучальнага года, Дзень ведаў у Беларускім універсітэце культуры. Ля параднага ўваходу, упрыгожанага дзяржаўным гербам БНР і сцягамі нашай краіны, сабраліся студэнты і выкладчыкі, каб на старажытных фаліянтах паклясціся шанаваць Бацькаўшчыну, аддана служыць нацыянальнай культуры. Пад фанфары ў чорных мантыях і канфедэратках выйшла прафесура, універсітэцкі хор спяваў гімн "Віват, акадэмія!", узгадваліся імёны вялікіх беларускіх асветнікаў Еўфрасінні Полацкай і Кірылы Тураўскага, Міколы Гусоўскага і Францішка Скарыны. Знакамітыя словы апошняга пра існасць патрыятызму сталі лейтматывам свята. Прагучалі шчырыя вітанні рэктара Ядзвігі Грыгаровіч і міністра культуры і друку Анатоля Бутэвіча. Пробную лекцыю прачытаў прафесар Грынчык. Будучыя дзеячы нацыянальнай культуры прайшлі праз браму ведаў і пачаўся іх шлях да спасціжэння высокіх духоўных каштоўнасцей нацыі.**

ужо пасля стварэння дэпутацкага клуба «Грамады», едзе на нараду з імі ў Вольны горад Данцынг (Гданьск). А той самы С. Рак-Міхайлоўскі, які ў 1919 годзе браўся за стварэнне беларускага антыбальшавіцкага войска, становіцца адным з лідэраў звязанай з камуністамі арганізацыі — Беларускай сялянска-работніцкай грамады. **Усе разам члены сеймавага клуба «Грамады» адмаўляюцца ад сваёй ідэі аб аўтаноміі Заходняй Беларусі ў складзе Польшчы і прымаюць праграму, першы пункт якой гаворыць, што «ўсе беларускія землі павінны быць злучаны і аб'яднаны ў адну незалежную рэспубліку пад уладай рабочых і сялян».** На базе гэтай, а не іншай праграмы, створанай Б. Тарашкевічам пры ўдзеле камуністаў (і дзе — у Маскве!), становіцца «Грамада» масавым сялянскім рухам.

Аб дзейнасці «Грамады» напісана некалькі цікавых прац, якія не страцілі свайго значэння да сёняшняга дня, нягледзячы на даніну, аддадзеную іх аўтарамі тагачасным ідэалагічным прымхам. Перш за ўсё, гэта работы А. Бергман і У. А. Палуяна. Іх старонкі пераканаўча сведчаць, што іменна заходнебеларуская рэчаіснасць стварыла тую выбуховую сітуацыю, у якой павінен быў вырасці такі радыкальны і масавы сялянскі рух, як «Грамада». Але на адно пытанне аўтары гэтых прац не маглі ў той час даць адказ: навошта маскоўскім камуністычным цэнтрам патрэбна такая арганізацыя якраз у Польшчы і ў гэты час? Дзеля чаго, вобразна кажучы, яны пастараліся ў гэтай сітуацыі ўкласці запалкі ў рукі лідэраў левага крыла нацыянальнага руху ў Заходняй Беларусі?

Каб зразумець гэта, неабходна асэнсаваць ролю, якая адводзілася рэвалюцыйнаму руху ў Польшчы ў бальшавіцкай стратэгіі сусветнай сацыялістычнай рэвалюцыі. Важнасць гэтай ролі вызначалася асаблівасцю становішча Польшчы як суседа Германіі, краіны, якая, на думку кіраўніцтва ВКП(б), была больш за іншых «цяжарнай» сацыялістычнай рэвалюцыяй. **Праз Польшчу з Масквы на Берлін ляжаў галоўны напрамак сусветнай рэвалюцыі,** на думку кіраўніцтва ВКП(б).

Застаючыся прыхільніцай гэтай стратэгічнай ідэі, сталінская групоўка ў сярэдзіне 20-х гадоў была вымушана змяніць тактыку. Давялося прызнаць, што не ўдаецца разбурыць капіталізм з ходу, у выніку бесперапыннага рэвалюцыйнага наступу, пачатага ў Расіі ў 1917 г. Камуністычны рух нёс вялікія страты, кампартыі Германіі і Польшчы з канца 1923 г. перажывалі крызіс, страчвалі ўплыў сярод насельніцтва. А ў гэты ж час заходняя індустрыяльная цывілізацыя стабілізавалася. Асэнсаваўшы, хаця і са спазненнем, узніклую сітуацыю, ВКП(б) была вымушана пераарыентавацца на будаўніцтва сацыялізму ў адной краіне, спадзеючыся, што гэты этап працягнецца нядоўга. Тым часам кампартыі былі абавязаны накіраваць свае намаганні на пашырэнне ўплыву ў масах і арганізацыю салідарнасці з Савецкім Саюзам, з мэтай забяспечыць яму спрыяльныя міжнародныя ўмовы. **У Заходняй Беларусі адзінай масавай апорай для кампартыі магло быць сялянства, а ідэямі, вакол якіх яно магло арганізавацца, былі ідэі барацьбы за зямлю і супраць нацыянальнага ўціску.** Фактычна гэтыя дзве ідэі спляталіся тут у адну, бо супраць беларускага селяніна былі мабілізаваны не толькі польскі паліцэйскі, польскі чыноўнік і настаўнік у польскай школе, але і польскі (ці апалячаны) памешчык, польскі асаднік.

Сітуацыя на так званых «усходніх крэсах» дазваляла Камінтэрну ставіць задачу «распароць цяперашнюю польскую дзяржаву па нацыянальных швах», як гаварыў аб гэтым Дз. Мануільскі на III з'ездзе КПП у пачатку 1925 г. Паколькі не ўдалося вырашыць гэту задачу шляхам узброенай барацьбы, была зроблена стаўка на масавы сялянскі рух. Ён павінен быў стаць галоўным вартаўніком будаўніцтва сацыялізму ў СССР на бліжэйшым захадзе і аднačасова — працярэбліваць шлях далей у Еўропу будучай сацыялістычнай рэвалюцыі. Трагедыя левага крыла беларускага нацыянальна-вызваленчага руху заключалася ў тым, што гэта частковае, тактычнае супадзенне яго інтарэсаў і інтарэсаў камуністычнай рэвалюцыі было ўспрынята яго лідэрамі як прынцыповае, як база для сумленнага супрацоўніцтва.

Будаўніцтва «беларускага дома» было несумяшчальным з сусветнай камуністычнай рэвалюцыяй і з таталітарным рэжымам, які пад сцягам гэтай рэвалюцыі складваўся ў СССР. Але яно аказалася несумяшчальным і з аўтарытарным рэжымам, які ўсталяваўся ў Польшчы пасля майскага пераварота 1926 г. Прыйшоўшы да ўлады, Ю. Пілсудскі мог паспрабаваць знайсці кампраміс з нацыянальна-вызваленчымі рухамі — беларускім, украінскім. У Польшчы ў гэты час ажывілася прапаганда «ягелонскай ідэі», у якую некаторыя палітычныя групы і асобныя дзеячы імкнуліся ўкласці дэмакратычны змест. Яны разумелі яе як канцэпцыю раўнапраўнага супрацоўніцтва ў агульнай дзяржаве польскага, беларускага і ўкраінскага народаў. Некаторы час на гэтай пазіцыі знаходзіліся і блізкія супрацоўнікі Пілсудскага Т. Галуўка, В. Стпічыньскі і інш. Але арыентацыя на дэмакратычныя ідэалы ў нацыянальным пытанні вымушала б яго шукаць падтрымку з боку польскіх дэмакратычных сіл, вяла б да залежнасці ад іх і ў іншых пытаннях — аб аграрнай рэформе, рэформе канстытуцыі і г. д. Пайсці на гэта Пілсудскі не мог, бо такая лінія супярэчыла мэтам пераварота — умацаванне выканаўчай улады за кошт прадстаўнічай, навядзенне парадку ў краіне сродкамі дыктатуры. У планах маршала было стварэнне паслухмянага яму сейма, што было немагчымым пры захаванні ў іх моцных пазіцый партый нацыянальных меншасцей. «Я хачу зменшыць прадстаўніцтва ў сейме нацыянальных меншасцей і камуністаў», — гаварыў Пілсудскі ў блізкім сваім асяроддзі ў чэрвені 1926 г. Такім чынам, адносіны да «Грамады» былі перадвызначаны ўжо самімі мэтамі майскага пераварота. Звесткі аб сувязі «Грамады» з кампартыяй маглі зрабіць пазіцыю Пілсудскага больш жорсткай, але прынцыпова яе не мянялі.

Ю. Пілсудскі аддаў у сваім урадзе два міністэрскія партфелі прадстаўнікам памешчыцкіх кансерватыўных колаў. Адзін з іх, А. Мейштовіч, прадстаўляў памешчыкаў з «усходніх крэсаў». У кастрычніку 1926 г. Пілсудскі правёў нараду з прадстаўнікамі польскай арыстакратыі ў родавым замку Радзівілаў у Нясвіжы. Тут ён рассеяў усе іх апасенні наконт левага характару свайго рэжыму. З гэтага часу ўжо ні для каго не магло быць сумненняў наконт адносін маршала да «Грамады» і нацыянальна-вызваленчага руху беларусаў наогул. Але Пілсудскі выступіў не толькі супраць беларускага палітычнага руху. Ён заняў негатыўную пазіцыю і адносна магчымасцей культурнага развіцця беларусаў. «Іх мова, — гаварыў ён на паседжанні Савета Міністраў 18 жніўня 1926 г., — з'яўляецца настолькі цяжкай і нераспрацаванай, што яна не можа быць мовай школы і органаў кіравання». І гэта гаварыў той самы чалавек, які на гэтай «нераспрацаванай» мове звяртаўся да мінчан у верасні 1919 г., які ў інтэрв'ю французскай газеце падкрэсліваў, што з'яўляецца «сынам гэтага краю», якога «ўсе там ведаюць і любяць».

Пілсудскі ў разгроме «Грамады» праявіў вялікую асабістую актыўнасць. У канцы лістапада 1926 г. ён прыехаў у Вільню, дзе правёў некалькі нарад з удзелам міністра юстыцыі А. Мейштовіча, супрацоўнікамі апарата бяспекі і кіраўнікамі мясцовай улады. У гэтых нарадах **дзейнасць «Грамады» кваліфікавалася як дыверсійная, накіраваная на раскол Польскай Рэспублікі і далучэнне часткі яе тэрыторыі да СССР.** Вядома, што калі праз нейкі час узнікла затрымка з арганізацыяй арыштаў кіраўнікоў «Грамады», А. Мейштовіч пагражаў сваёй адстаўкай, калі не будуць прыняты меры для «ліквідацыі змовы». Ен кваліфікаваў дзейнасць «Грамады» як накіраваную на падрыхтоўку бунта ў паўночна-заходніх ваяводствах Польшчы па заданні суседняй дзяржавы. У сувязі з гэтым патрабаваў пазбавіць кіраўнікоў «Грамады» дэпутацкай недатыкальнасці і аддаць іх пад суд.

На першы погляд, з'яўляецца дзіўным, што гэта скандальная гісторыя амаль не адбілася на міждзяржаўных польска-савецкіх адносінах. Успомнім, што ў адносінах паміж СССР і Англіяй значна больш дробны інцыдэнт прывёў да іх разрыву ў маі 1927 г. А тут абодва бакі імкнуліся замяць канфлікт. Асабліва выразна гэта тэндэнцыя праявілася ў дзеяннях польскага ўрада. Па яго ініцыятыве 10 лютага адбылася сустрэча міністра замежных спраў А. Залескага з савецкім паўпрэдам П. Войкавым, у якой польскі міністр рашуча заявіў, што яго ўрад «не можа нават і думаць» аб вайне з СССР, а меркаванні такога кшталту, якія выказваліся тады Бухарыным, Рыкавым, Варшалавым, не маюць пад сабой ніякіх падстаў. Ён прапанаваў узнавіць перамовы аб гарантыйным пакце, пачатыя ў 1926 г. Наогул на працягу ўсяго часу, пакуль ішло следства, а затым і судовы працэс над актывістамі «Грамады», польскі ўрад праяўляў надзвычайную далікатнасць у адносінах да СССР. А гэтыя адносіны дадаткова ўскладняліся літоўскай праблемай, якая якраз тады абвастрылася (СССР выступаў у ролі патрона Літвы), забойствам П. Войкава ў Варшаве ў чэрвені 1927 г., савецка-англійскім канфліктам. **Тым не менш, ні польскі, ні савецкі ўрад не кінулі ў гэты бурлівы кацёл сваіх узаемаадносін яшчэ і пытанне аб «Грамадзе».** (Савецкі бок абмежаваўся арганізацыяй кампаніі пратэсту грамадскасці.) Масква і Варшава сышліся ў імкненні падтрымліваць мір.

Логіку гэтых паводзін можна зразумець толькі ў кантэксце міжнароднай і ўнутрыпалітычнай сітуацыі кожнай з краін. У Польшчы ўрад Пілсудскага рыхтаваўся да парламенцкіх выбараў, запланаваных на вясну 1928 г. Стабілізацыя міжнароднага становішча краіны магла б садзейнічаць перамозе санацыйнага блока. Але сітуацыя складвалася трывожная. Яшчэ лакарнскія дамоўленасці 1925 г. засведчылі, што Захад разглядае Польшчу ў якасці краіны другога сорту, бяспека якой яго не надта хвалюе. У гэтай сітуацыі Пілсудскі лічыў, што СССР здольны развязаць вайну супраць Польшчы, бо ў маскоўскіх кіруючых вярхах «ёсць група людзей, якія жыць спакойна не могуць». У канцы 1926 г. у друк еўрапейскіх краін трапілі звесткі аб савецка-германскім ваенным супрацоўніцтве ў абход Версальскага дагавора. А яно заўсёды разглядалася ў Варшаве як небяспечнае для Польшчы. Таму

(Працяг шукай на 8-ай стар.)



*У НАДЫХОДЗЯЧЫХ ВЫБАРАХ*

ПРОСІМ ГАЛАСАВАЦЬ

за КАНДЫДАТУРУ

# ДЖОНА ЭНГЛЕРА
# JOHN ENGLER

*НА ГУБЕРНАТАРА ШТАТУ МІШЫГАН*



STATE OF MICHIGAN
OFFICE OF THE GOVERNOR
LANSING

JOHN ENGLER
GOVERNOR

October 11, 1994

Dear Friends:

As Governor of the State of Michigan, it is a pleasure to express my warm regards to the readers of the Belarusian Digest.

Michigan is fortunate to count among our population significant numbers of citizens of Belarusian descent. Through your success in professional and business pursuits, the strength of your family values, and the pride and celebration of your culture and heritage, you each make important contributions to Michigan's society and economy.

We all have an important stake in Michigan's future, and together, we have taken great strides over the past four years to improve the quality of life in our state. We have cut taxes eleven times to help hard-working families keep more of what they earn, encourage new economic development and create new jobs. Economic data has shown our state leading the nation in new business growth, and our state's unemployment rate is at its lowest point in 20 years. By making work and self-sufficiency the central component of our welfare system, Michigan has emerged as a national leader. In comparison to a national average of 8%, nearly 25% of those on public assistance in our state earn a paycheck by working.

To fight crime and keep more convicted criminals off our streets, more than 100 new criminal justice reform bills have become law in the past few years. These initiatives gave our state the strongest anti-stalking law and domestic violence laws in the nation. We have boosted state funding to put more law enforcement officers on the streets. Honest and determinate "truth-in-sentencing" will now make our corrections system accountable and a more effective deterrent to crime.

We have also worked hard to ensure that all of our children have within their reach the opportunity to receive a world-class education. Overhauling the school funding system through the passage of Proposal A, creating charter schools, increasing funding for at-risk youth, and improving school safety have resulted in reforms to an education system that invite innovation and put the needs of our children first.

I am confident that with your continued support we will continue to build upon these accomplishments and ensure all Michigan families face a better and brighter future.

Sincerely,

John Engler
Governor



Not paid for at State Expense.

P.O. Box 30013, Lansing, Michigan 48909

*Анатоль ВЯРЦІНСКІ:* "ЗВЯЗДА"

## «СПАДЗЯЮСЯ, ШТО БЛУКАННЕ ПА ПАКУТАХ ЗАКОНА АБ ДРУКУ СКОНЧЫЦЦА НА СЕСІІ ПАРЛАМЕНТА»

**Агульнавядомы факт, што, акрамя заканадаўчай, выканаўчай і судовай улады, існуе ў кожным цывілізаваным грамадстве яшчэ адна неафіцыйная сіла -- журналістыка, якую ахрысцілі «чацвёртай уладай». Беларусь таксама не абдзелена сродкамі масавай інфармацыі, больш таго — часопісы, газеты, тэле- і радыёрынак значна пашырыўся за апошні час. Аднак ёсць вялікае «але». Вось ужо некалькі гадоў работнікі пяра і мікрафона працуюць, па сутнасці, ва ўмовах прававога вакууму: старыя савецкія законы, што рэгламентавалі журналісцкую дзейнасць, аджылі сваё, а новыя недзе заблукалі ў кулуарах вышэйшых эшалонаў улады рэспублікі. Прыходзіцца беларускім журналістам забяспечваць правы грамадзян на свабоду слова, друку і інфармацыі па інтуіцыі, амаль на ўласныя страх і рызыку.**

**Дакуль жа будзе існаваць гэта не зусім нармальнае, нават парадаксальнае становішча? Па тлумачэнні карэспандэнт «Звязды» звярнуўся да чалавека, які прымаў самы непасрэдны ўдзел у падрыхтоўцы нацыянальнага «Закона аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі». Наш субяседнік — намеснік старшыні Камісіі ВС РБ па пытаннях галоснасці, СМІ і правоў чалавека Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**

**— Першае пытанне -- вельмі канкрэтнае і прамое. Калі беларуская прэса атрымае заканадаўчы падмурак і якой вартасці ён атрымаецца?**

— Хочацца верыць, што блуканне па пакутах законапраекта скончыцца на чарговай, шаснаццатай сесіі ВС. 20 верасня дакумент быў абмеркаваны на Кансультацыйным савеце ВС і рэкамендаваны да ўключэння ў парадак дня сесіі. У яго аснову пакладзена ўсё лепшае з аналагічных прававых актаў былога СССР, Расіі, Украіны, дзяржаў Балтыі. Наш закон разглядаўся амерыканскімі экспертамі. Акрамя таго, у маі бягучага года пад эгідай цэнтра «MASS-Media-Belarus» прайшла двухдзённая канферэнцыя «Дэмакратыя і Закон аб друку». Спецыялісты з Англіі, Германіі, ЗША, Польшчы і Беларусі горача дыскусіравалі па асноўных палажэннях законапраекта. Я лічу, што вынікам усёй гэтай работы стаў прафесійна распрацаваны юрыдычна-прававы дакумент, у якім сфармуляваны асноўныя моманты дзейнасці прэсы. Законапраект складаецца з 7 раздзелаў і 50 артыкулаў, дзе трактуюцца паняцці аб СМІ, пытанні заснавання і арганізацыі дзейнасці СМІ, распаўсюджвання масавай інфармацыі, адносінаў СМІ з грамадзянамі, дзяржаўнымі органамі і ўстановамі, правоў і абавязкаў журналіста, міжнароднага супрацоўніцтва ў галіне масавай інфармацыі, адказнасці за парушэнне заканадаўства аб друку і іншых СМІ.

**— Беларускі Закон аб друку мог убачыць святло яшчэ ў 1991 годзе. Што ці хто перашкаджалі прагрэсіўнаму працэсу?**

— Знаходзіліся тыя, хто па розных прычынах і матывах выступалі супраць прыняцця закона. У іх выказваннях праглядваліся то прававы нігілізм, то адсутнасць палітычнага канструктывізму, а то і яўнае процістаянне дэмакратычным рэформам. Напрыклад, газета «Фемида» разам з Саюзам журналістаў арганізоўвалі «круглыя сталы» для абмеркавання законапраекта аб друку і іншых СМІ і «ничтоже сумняшеся» заяўлялі: «Не той праект, не тыя аўтары». А актыўны ўдзельнік такіх пасяджэнняў А. Патупа выказаўся яшчэ больш катэгарычна: «Мне напляваць на нормы!»

Павінен сказаць, між тым, што законы прымаюцца не на «круглых сталах» і мітынгах. Распрацоўка законапраектаў і падрыхтоўка іх да прыняцця адпаведнымі органамі -- цяжкая праца, якая патрабуе грунтоўных ведаў, дасведчанасці, аналітычнага асэнсавання замежнага вопыту.

**— 16--18 студзеня 1987 года ў Лондане адбылася Сусветная канферэнцыя «Голас Свабоды». Журналісты з 34 краін прынялі «Хартыю свабоды друку». Там выкладзены прынцыпы бесперашкоднага руху інфармацыі...**

-- Я ведаю змест «Хартыі». Дадам, што наша знаёмства з міжнародным вопытам не абмяжоўваецца толькі чытаннем. У час распрацоўкі закона мы сустракаліся з прадстаўнікамі розных журналісцкіх арганізацый з цэнтрамі ў Вашынгтоне, Жэневе, Мюнхене, са спецыялістамі ў галіне СМІ. Зараз у Мінску знаходзяцца з місіяй ПРААН-ЮНЕСКО аўтарытэтныя эксперты Прайс і Бегуін. Іх мэта — даследаванне становішча спраў у нашых СМІ, пытанняў іх свабоды і апаратыўнасці. Потым будзе выдадзены даведнік ЮНЕСКО аб беларускіх СМІ. Распрацоўкай праблем журналісцкі займаецца і нядаўна адчынены ў Мінску Міжнародны гуманітарны цэнтр. Так што, да ідэалаў «Хартыі» мы паступова, хоць і марудна, усё ж крочым. Яны, ва ўсякім разе, — наш арыенцір.

**—Ваш погляд на стан сучаснай прэсы Беларусі.**

— У час сваёй паездкі ў Латвію я знаёміўся з мясцовымі СМІ. Адной з асаблівасцей іх выданняў і перадач, у прыватнасці рускамоўных, з'яўляецца тое, што яны абсалютна лаяльныя ў дачыненні да канстытуцыйнага ладу, дзяржаўнага суверэнітэту Латвійскай Рэспублікі. Там ніхто не аспрэчвае дзяржаўнасць латышскай мовы, непарушнасць нацыянальнай сімволікі, правамернасць існавання ўласнай валюты.

У нас жа значная частка СМІ не толькі не стварае адпаведную маральна-палітычную атмасферу на шляху да дзяржаўнага станаўлення Беларусі, ажыццяўлення дэмакратычных рэформаў, але, па сутнасці, ставіць гэтыя працэсы пад сумненне, кідае цень на нацыянальнае адраджэнне, на рэальнае ўсталяванне беларускай мовы ў якасці дзяржаўнай. Я ўжо не гавару аб тых пракамуністычных, прарасійскіх, яўна антынацыянальных выданнях, якія з'яўляюцца, па сутнасці, ідэалагічным смеццем нашай інфармацыйнай прасторы.

**— Як вы глядзіце на тое, што не самыя горшыя беларускія журналісты вымушаны з-за малога заробку ці немагчымасці да канца выказаць свой погляд на жыццё шукаць месцы ўласных карэспандэнтаў у расійскіх, латышскіх, літоўскіх выданнях?**

— Вы маеце рацыю, уздымаючы гэта пытанне. Я асабіста знаёмы з многімі такімі журналістамі. Так, праца на замежныя СМІ прыносіць ім адчувальны прыбытак. Аднак не лічу становішча нармальным, асабліва, з пункту гледжання незалежнай журналістыкі. Наш нацыянальны журналісцкі корпус не такі ўжо багаты, каб яго сілы распыляліся, не білі ў адну кропку — служэння дэмакратычнай Беларусі.

**— Са студзеня цэнтральныя газеты краіны могуць атрымаць «вольную» ад сваіх заснавальнікаў -- ВС і Кабінета Міністраў. Ці не прывядзе такі крок да павольнай смерці шмат якіх папулярных выданняў?**

— Нашы калегі з адпаведнага Камітэта Дзяржадумы РФ па друку лічаць, што дзяржаўных СМІ, акрамя тэлебачання, быць не павінна. Выданні, відаць, трэба падраздзяляць на сацыяльна важныя, нацыянальныя, а не на дзяржаўныя і іншыя...

Што гаварыць, калі ў некаторых так званых дзяржаўных выданнях ёсць выказванні ў адмоўным плане, як гэта ні парадаксальна, у адносінах да дзяржаўнасці, нацыянальнай культуры, гісторыі, мовы. Калі такія газеты сыдуць з арэны, менавіта я перажываць не буду. Застанецца больш паперы і друкарскіх сродкаў для тых СМІ, якія бачаць сваё прызначэнне ў канструктыўнай і стваральнай дзейнасці на карысць народа, імкнуцца, каб слова сеяла «разумнае, добрае, вечнае».

Мушу тут дадаць, што калі пагартаеш свежыя газеты і звяртаеш увагу на тое, як некаторыя з іх запаўняюць цэлыя палосы альбо забаўляльным чытвом, часам разлічаным на нізкапробны густ, альбо інфармацыяй не першай свежасці, узятай з самых розных крыніц, то лішні раз прыходзіш да высновы — няма чаго сказаць чытачу рэдактарам і супрацоўнікам гэтых газет. Якія, паўстае пытанне, могуць быць у іх прэтэнзіі да дзяржавы, да падаткаплацельшчыка ў сэнсе матэрыяльна-фінансавай падтрымкі?

**— Карацей, вы хочаце падкрэсліць, што да ліку адмоўных якасцей некаторых беларускіх СМІ адносяцца не толькі пэўныя палітычныя пазіцыі іх рэдактараў, але і недахват інтэлектуальнага і творчага патэнцыялу?**

-- Так, вы мяне правільна зразумелі. Калі мы гаварылі пра чытво, псеўдаінфармацыю, бульварщчыну, то я меў на ўвазе менавіта гэта. Хаця за адсутнасцю адпаведнай грамадзянскай пазіцыі таксама хаваецца своеасаблівая пазіцыя.

**— Прыходзіш да высновы, што стан сённяшняй беларускай журналістыкі вельмі няпросты, супярэчлівы. Можа Закон аб друку паспрые аздараўленню сітуацыі і станаўленню «чацвёртай улады!»**

— Не сумняваюся, што паспрыяе. Стварэнне адпаведнай заканадаўчай базы з'яўляецца адным з рашаючых фактараў жыццядзейнасці сапраўды незалежных, дэмакратычных СМІ Рэспублікі Беларусь.

**Гутарку вёў Сяргей ХРЫПАЧ.**

### Дэпутаты адведалі Амэрыку.

Група дэпутатаў Вярхоўнага савету Беларусі адведала ЗША. Паездку арганізавала Амбасада ЗША ў Менску. Усе дэпутаты — Сяргей Антончык, Барыс Гюнтар, Лявон Дзейка, Мікалай Мацкевіч, Аляксандар Паруль і Галіна Сямдзянава — упяршыню прыязджалі ў Амэрыку.



*ЧАМУ Ж НАМ НЕ ПЕЦЬ*

## ТРЭБА ДОМА БЫВАЦЬ ЧАСЦЕЙ

*Словы Рыгора БАРАДУЛІНА* *Музыка Ігара ЛУЧАНКА*

***Трэба дома бываць часцей,***
***Трэба дома бываць не госцем,***
***Каб душою ты стаў чысцей***
***І не страціў святое штосьці.***

***Помніць свой на іржышчы цень,***
***Не забыць, як завуць суседа.***
***Помніць, як сустракае дзень***
***За сяброўскім сталом бяседа.***

***Не забыць, як марозам злым***
***Клямка пальцы пячэ балюча***
***І адкуль на стале тваім***
***Бохан свежага хлеба пахучы.***

***Трэба дома бываць часцей,***
***Трэба дома бываць не госцем,***
***Каб душою ты стаў чысцей***
***І не страціў святое штосьці.***

***Трэба дома бываць часцей...***




ЗВЯЗДА

## НАВОШТА ЛІШНІ ПАШТОВЫ ТРАНЗІТ ПРАЗ МАСКВУ?

***«Паштальён прынёс пісьмо, але яно было значна пашкоджана, нібы пабывала ў малатарні. Зразумела, гэта мяне абурыла», — паскардзіўся ў «Звязду» Я. Кухарчук з в. Дакудава Лідскага раёна.***

***Чаму так здарылася?***

Вось што пасля разгляду гэтага прыкрага факта паведамў **начальнік упраўлення паштовай сувязі і распаўсюджвання друку Міністэрства сувязі А. Краўцоў:**

— Звычайная пісьмовая карэспандэнцыя пры перасылцы ад адпраўшчыка да адрасата праходзіць шмат этапаў сартавання і апрацоўкі на розных прадпрыемствах сувязі. І паколькі яна перасылаецца без прыпіскі да суправаджальных дакументаў, то вызначыць канкрэтнае месца і вінаватых у пашкоджанні пісьмаў не ўяўляецца магчымым.

Улічваючы складанае становішча з карэспандэнцыяй, якая паступае з-за мяжы, Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь звярнулася да паштовых адміністрацый замежных краін з просьбай адпраўляць міжнародную карэспандэнцыю ў адрас нашай рэспублікі прамымі дэпешамі непасрэдна ў Мінск, каб выключыць дадатковы пункт апрацоўкі ў Маскве. У цяперашні час Беларусь атрымлівае міжнародную карэспандэнцыю ў прамых дэпешах — з 12 і авіядэпешах — з 27 дзяржаў. Аднак частка яе прадаўжае паступаць адкрытым транзітам праз Маскву. Асноўная колькасць гэтай пошты прыходзіць у добрым выглядзе, але маюць месца выпадкі, калі асобныя пісьмы паступаюць пашкоджанымі. Пры выяўленні іх работнікі дзяржаўнага прадпрыемства «Мінская пошта» ставяць адпаведны штамп, дадатковa ўпакоўваюць пісьмо і адпраўляюць па прызначэнню, як гэта здарылася з пісьмом вашага чытача.

## А николаевцы — против

**Местные власти знаменитой колосовой Николаевщины присвоили одной из улиц этой деревни имя еще одного знаменитого уроженца — Язепа Лесика.**

Решение об увековечении памяти известного своего односельчанина в год 110-го юбилея со дня его рождения было принято на сессии местного сельсовета. При этом николаевские депутаты единогласно решили, что честь носить имя Язепа Лесика больше "заслужила"... тупиковая в деревне улица Комсомольская.

Жители Николаевщины, мягко говоря, подняли на смех такое решение своих представителей в местном органе власти. Потому что если не каждый николаевец, то через одного — точно, знают, что эта самая улица Комсомольская появилась в их поселении в послевоенное время и к личности Я.Лесика никакого отношения не имеет. Рос же будущий знаменитый белорусский языковед и общественный деятель — кстати, родной дядя Якуба Коласа — на бывшей Казенной улице (сейчас она носит название Школьная). Именно тут и стоял дом родителей Язепа.

Поэтому сельчане выступили против переименования улицы Комсомольской в улицу имени Язепа Лесика. Со своим протестом и почти сотней подписей они обратились как к местным властям, так и в Белорусский фонд культуры, требуя восстановления логической и исторической закономерности: переименования центральной в деревне улицы Школьной в улицу имени Язепа Лесика.

**Сергей ГОЛОВКО, БелаПАН.**

"Народная Газэта"

### НАВІНА!!!

Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва выпусьціў новую кнігу паэзіі і прозы Ўладзімера Дудзіцкага — "Напярэймы Жаданьням"

Кніга налічвае 313 старонак і выдана ў цьвёрдай аблоскы. Наклад абмежаваны. Замаўляць новую кнігу трэба ў Др. Вітаўта Кіпеля па тэлефоне: (201) 933-6807.

*Пра беларускіх эмігрантаў:*

Народная газета

# СЯМ'Я

## У Злучаных Штатах дазваляецца замест лічбаў у аўтамабільным нумары выкарыстоўваць літары. Стопрацэнтная амерыканка Ларэйн заказала наступны "нумар": BELARUS. Чаму так?..

**Вацлава ВЯРБОЎСКАЯ**

— Прэзідэнцтва ў Амерыцы пачынаецца з сям'і. Калі ў цябе сям'я ў парадку, калі ты добры сем'янін, то можаш быць і нядрэнным прэзідэнтам. А калі ўжо сям'ёй не патрафіў кіраваць, то як жа будзеш кіраваць краінай? — так пачаў свае роздумы спадар Вітаўт Кіпель, дырэктар Беларускага інстытута навукі і мастацтва, што ў Нью-Йорку, ганаровы доктар гістарычных навук Гродзенскага ўніверсітэта імя Я.Купалы, вельмі вядомая і паважаная асоба і ў Амерыцы, і на Бацькаўшчыне, цікавы чалавек, добры сем'янін, бацька, дзядуля.

І далей працягнуў сваю думку:

— Сям'я — гэта team (па-англійску — брыгада, каманда). Усе пачынанні — разам! А хто наперадзе, а хто ззаду — не так ужо і важна...

❑

Мусім з вамі падумаць: колькі ж сямей па ўсім свеце раскідалася (і ў нашай краіне ў тым ліку!), бо ніяк не хочуць падзяліцца на пакору, на падпарадкаванне сваіх асабістых амбіцый інтарэсам сямейным. Кожны хоча быць лідэрам...

Колькі аскабалкаў болю, гора, бяды ўткнуліся ў сэрцы людскія! Колькі стогнаў, плачу, крыку ў нашых сем'ях? Колькі незагоеных ран? Колькі сірот, якія ніколі не ведалі мацярынскай альбо бацькоўскай ласкі, любові?

І ўсё — чаму? А таму, мне думаецца, што дзяржава зусім не клапоціцца, каб мацаваць інстытут сям'і, рабіць усё магчымае, каб сям'я была тым месцам, дзе чалавек мацнее, адчувае надзейную падтрымку ў цяжкі час і падзяляе радасць -- у шчасліве. На жаль, гэта трывіяльная ісціна каштуе кожнаму з нас крывавага вопыту. Выхаваныя на прыкладзе Паўлікаў Марозавых і адданасці дзяржаве замест Богу і сям'і, мы маем тое, што амаль палавіна сем'яў развалена.

Памятаю, у школе мы вучылі нейкі вершык: дзяўчына пасварылася з мужам і прыйшла на камсамольскі збор з чырвонымі ад слёз вачыма. А сакратар, даведаўшыся, у чым справа, сказаў:

...И пусть тебе заменит мужа
Наш молодой, здоровый коллектив.

❑

Праз прыклад сям'і, якую маю гонар ведаць, хацела б падзяліцца з вамі людскімі поглядамі, марамі, удачамі, няўдачамі, роздумамі — адным словам, сямейным вопытам.

...Ці можаце сабе ўявіць, што ў 55 гадоў вы паступаеце ва ўніверсітэт?

Асабіста я ўпэўнена, што нікому ў Беларусі і ў галаву гэта "вар'яцкая" ідэя прыйсці не зможа. А ў Амерыцы ў гэтым узросце нямала людзей альбо працягвае сваю адукацыю, альбо... пачынае. І нічога дзіўнага ніхто не знаходзіць.

Дык вось, спадарыня Зора Кіпель, жонка спадара Вітаўта, вырашыла менавіта ў 55 гадоў паступіць ва ўніверсітэт на дзённае аддзяленне.

Чаму?

Гэта — самае цікавае. Але спачатку некалькі слоў пра спадарыню Зору.

Калісьці скончыла ў Нямеччыне гімназію імя Янкі Купалы, потым паступіла ў Бельгіі ў Лювэнскі ўніверсітэт на факультэт аналітычнай хіміі. Потым у Амерыцы скончыла Ратгерскі штатны ўніверсітэт — факультэт інфарматыкі і бібліятэчных навук — і працавала ў Нью-Йорку разам з Вітаўтам у адной з буйнейшых бібліятэк свету — у Публічнай бібліятэцы.

Аднойчы яе зацікавіў рукапісны зборнік XVI стагоддзя, які адшукала ў нейкім закутачку кнігасховішча. Было там некалькі аповесцей, перакладзеных на беларускую мову, і сярод іх "Трыстан і Ізольда".

Сенсацыйная з'ява — не вядомы спецыялістам пераклад літаратуры сярэднявечча на тагачасную беларускую мову!

Але ж Зора Кіпель не была прафесійным літаратарам. І таму, каб мець магчымасць прафесійна падысці да гэтай працы, яна вырашыла паступіць на літаратурны факультэт Ратгерскага ўніверсітэта.

— Колькі каштавала навучанне? — пытаюся я ў Зоры.

— 24 тысячы долараў за 6 семестраў! Але гэтага ніколі б не атрымалася, калі б не падтрымка Вітаўта. Працавала і вучылася. Муж пасля працы сустракаў мяне з аўтобуса і вёз да ўніверсітэта. Потым браў кніжкі, ехаў ва ўніверсітэцкую бібліятэку, працаваў там, чакаючы, пакуль я скончу заняткі... У рэшце рэшт у серыі "Сярэдневяковыя тэксты" выйшла мая праца.



Я пацікавілася і знайшла: у амерыканскіх падручніках па сярэднявеччу фігуруе беларускі пераклад "Трыстана і Ізольды". Аўтарка перакладу на англійскую мову і ўступу — Зора Кіпель.

А наогул перакладной літаратуры ў XVI стагоддзі ні ў расійскай, ні ва ўкраінскай культуры не было. Гэта і адрознівае нас — беларусы пачалі перакладаць першыя. Яшчэ ў XVI стагоддзі беларуская шляхта цікавілася еўрапейскай літаратурай, але чытаць яе хацела на роднай мове!

❑

Памятаю пісьмы, якія атрымлівала, працуючы на Беларускім тэлебачанні: "Я белоруска, но не хочу, чтобы мои дети коверкали язык, не хочу, чтобы они учились по-белорусски!" і — г.д.

А вось прыклад з сям'і Кіпеляў. Ларэйн, жонка малодшага Кіпеля — Юркі, заказала нумар на сваёй машыне: BELARUS. (У Амерыцы гэта мажліва зрабіць замест лічбаў.) І часта ў яе, стопрацэнтнай, як кажуць, амерыканкі, людзі пытаюцца, што гэта такое "Belarus". І тады Ларэйн цярпліва тлумачыць, што краіна ёсць такая ў свеце...

❑

Як магло так здарыцца, каб у Амерыцы гэтая сям'я так моцна была адданая Беларусі? Спачатку слова спадарыні Зоры:

— Я, ведаеце, проста расла на Беларусі. Бабка, дзед, бацькі — беларусы. Сярод іх Лявон Савёнак і Апалёнія Радкевіч — актыўныя дзеячы грамадскага руху ў Менску ў дваццатых гадах. Лявон — журналіст, пісьменнік (літаратурная імя Леанід Сфэн), знаны ў 20-х гадах сваімі рэпартажамі і фельетонамі. Апалёнія — маладая настаўніца, аўтарка шматлікіх педагагічных дапаможнікаў, блізкая супрацоўніца жонкі Янкі Купалы — Уладзі. Ім, на жаль, не давялося доўга жыць у Менску: Лявон быў высланы на Поўнач, Апалёнія таксама вымушана была выехаць. Але галоўнае, што паспелі зрабіць — прывіць дзецям любоў да Бацькаўшчыны і ідэю служыць Богу, сям'і і Айчыне, хоць, як гэта ні трагічна, не на зямлі сваіх продкаў, а на вонках. У Нямеччыне, у перасяленскіх лагерах, пачалі арганізоўваць беларускія школкі. Але ж падручнікаў няма! І вось тады Апалёнія, мая маці, уклала лемантар. Яго надрукавалі, і па ім вучыліся беларускія дзеці ў замежжы...

Дзеці Кіпеляў Юрка і Алеся ў Нью-Йорку таксама вучыліся роднай мове па гэтай кніжцы. А цяпер ужо трохгадовы ўнук Алесь называе яе "тар" (лемантар).

❑

— Я — таксама "прадукт" вялікага СССР, — распавядае Вітаўт Кіпель. — Рос пад кіраўніцтвам адной толькі маці. Бацьку як нацдэма пасадзілі ў канцлагер. Маці мне заўсёды паўтарала: "Не забывайся, што ты — беларус". Яна была актыўная ў руху беларускай моладзі, спявала ў хоры Тэраўскага. Настаўніца. Перакладчыца. Урэшце ёй таксама "прапанавалі" выехаць з Беларусі разам са мною. Назаўсёды...

У гарадах Вятцы, Арле, дзе жыў у ссылцы 10-гадовы хлопчык Вітаўт, маці часта гаварыла яму: "Калі здарыцца, што мяне забяруць, бяры вось гэту валізку, там усё ёсць, і ідзі ў дзіцячы дом, але не забывайся, што ты — беларус".

"Мария Васильевна, запишитесь русской, это же все равно, а вам значительно легче будет", — звярталіся да яе сяброўкі-настаўніцы. А Марыя Кіпель адказвала: "Если все равно, то пусть будет правда — белоруска. Как есть".

Жонак нацдэмаў не апявалі, як дзекабрыстак, але дзякуючы ім мы маем сёння плён беларускасці, дзякуючы ім шмат людзей свядома ганарацца належнасцю да культуры сваіх продкаў. Вядомы "Тэстамэнт" Жылкі перахоўваў Яўхім Кіпель (бацька Вітаўта), але перад арыштам ён аддаў яго Марыі, і тая ўклала ў валізку і, рызыкуючы, зноў перахоўвала. Быў вобыск, але, дзякуй Богу, не знайшлі. Так што менавіта Марыя Кіпель зберагла гэту унікальную рэч для Беларусі.

— Ці памятаеце вы бацьку?

— Чаму ж не! Паходзіў ён з палескай вёскі і марыў толькі пра самастойнасць. З рэвалюцыі быў у Чырвонай Арміі, меў узнагароды. Яму прапанавалі ўступіць у кампартыю ў 1919 годзе, але адмовіўся: "У партыю не пайду, занадта я сялянскі". Больш за ўсё рупіўся за беларускасць: арганізаваў Саюз моладзі, быў першым старшынёй Беларускага студэнцкага саюзу БДУ, працаваў у ваеннай секцыі тэрміналагічнае камісіі Інбелкульта, потым — сакратаром аддзела прыроды і гаспадаркі Інбелкульта. Супрацоўнічаў з часопісамі "Наш край", "Полымя", выкладаў у школах, удзельнічаў у краязнаўчай рабоце ў розных мясцінах Беларусі.

У 1930 годзе Яўхіма Кіпеля арыштавалі. Спачатку знаходзіўся ў ссылцы, потым адбываў тэрмін у Байкала-Амурскіх лагерах, дзе быў пазбаўлены права вяртацца на Беларусь...

Вось так і прыйшлося хлопчыку Вітаўту ўзяць цяжар мужчынскай долі на свае плечы. І гэта вельмі дапамагло яму ў жыцці. У Нямеччыне, каб вучыцца, плаціць за начлег, зарабляў фізічнай працай: мусіў насіць цяжкасці... І знаходзіў час рабіць беларускія справы: з сябрамі арганізавалі моладзь, закладалі рух беларускіх скаўтаў.

Пераехаўшы ў Бельгію, хлопцы не пакідалі грамадскай працы, і было адчуванне, што нешта рабілі для Айчыны, хаця і па-за межамі.

У Бельгіі ў каталіцкім універсітэце, што ў Лювэне (адзін са старэйшых універсітэтаў свету), іх прынялі і нават далі стыпендыю. Дарэчы, нават і цяпер для моладзі Беларусі ёсць магчымасць атрымаць стыпендыю ў гэтым слаўтым універсітэце.

— І былі ў нас там найшчаслівейшыя гады нашага жыцця, — гаворыць Вітаўт. — Атмасферу гэтага універсітэта перадаць нельга — трэба там пабываць! Уявіце: залікі трэба здаць, грамадскія справы зрабіць. Беларускі хор арганізавалі пад кіраўніцтвам Міколы Равенскага. Было вельмі цікавае, жывое, напружанае жыццё. Беларускіх студэнтаў вучылася там каля 60 чалавек.

— А са спадарыняй Зорай вы ва ўніверсітэце пазнаёміліся?

— Не. Сябраваць пачалі яшчэ ў Нямеччыне, у гімназіі імя Янкі Купалы, потым — ва ўніверсітэце. Пры сканчэнні навучання вырашылі ажаніцца. Напісалі бацькам Зоры, якія жылі ў Амерыцы. Але яны папрасілі пачакаць да прыезду ў Амерыку. Мы так і зрабілі...

У Лювэнскім універсітэце Вітаўт выбраў геалогію.

— Чаму менавіта яе?

— Дырэктар гімназіі імя Янкі Купалы спадар Аляксандр Орса, які меў на мяне вялікі ўплыў, быў па прафесіі геолаг. Пасля сканчэння універсітэта зрабіў дактарат "Слюды бельгійскага Конга", які быў надрукаваны Бельгійскай акадэміяй навук. Мне нават прапанавалі ехаць у Афрыку галоўным геолагам прамысловай кампаніі.

— А спадарыня Зора?

— Яна абараніла кандыдацкую дысертацыю з аналітычнай хіміі "Спектральны аналіз жалезістых мінералаў". Вучылася па-французску, але ў гімназіі стандартныя формулы былі закладзены па-беларуску, і нават зараз, калі прыпамінае іх, то — на роднай мове.

❑

— Спадар Вітаўт, адарванасць ад Радзімы — гэта заўсёды балюча. Ці адчуваеце вы настальгію?

— Праца для Беларусі не давала і не дае месца для настальгіі, мы рупіліся ўсюды рабіць усё з бадзёрасцю. Пачалі працаваць у Беларускім інстытуце навукі і мастацтва ў Нью-Йорку, ладзілі сустрэчы з сенатарамі і кангрэсменамі, тлумачылі ўсім пра Беларусь, на радыё "Свабода" ўвесь час прапагандавалі беларускасць, гістарычную праўду, друкавалі кніжкі, артыкулы...

Да 200-годдзя ЗША ўрад штата Нью-Джэрсі звярнуўся да Вітаўта з прапановай прыняць удзел у рэдагаванні 47-томнага выдання, прысвечанага гісторыі ўсходнееўрапейскай эміграцыі. А Зора апрацавала першы даведнік аб нацыянальных групах у штаце.

Шмат цікавых кніжак, сярод якіх "Янка Купала і Якуб Колас на Захадзе", выйшла ў свет у Амерыцы дзякуючы руплівай працы спадарства Кіпеляў, укладальнікамі якой яны з'яўляюцца. ЛіМ ужо пісаў пра гэта, але б хацела яшчэ раз працытаваць Г.Хаткевіча: "Шматгадовая праца Зоры і Вітаўта Кіпеляў з'яўляецца велізарным укладам у агульнае беларусазнаўства. Яна дапаможа новым даследчыкам знайсці затаптаныя сцяжынкі да творчасці слаўных суайчыннікаў Янкі Ку-

---

(Працяг са стар. 5-ай)

польскі бок скарыстаў зацікаўленасць СССР у тым, каб не надаваць вялікага розгаласу справе аб «Грамадзе», для ўзнаўлення перамоў аб пакце аб ненападзенні на выгадных для Польшчы ўмовах. Праўда, перагаворы працягваліся нядоўга і ў той час не прывялі да падпісання пакта.

Што ж датычыць урада СССР, то ён не быў зацікаўлены ў абвастрэнні сітуацыі па меркаваннях як унутрыпалітычнага, так і знешнепалітычнага характару. Унутраная барацьба ў ВКП(б) у той час яшчэ не прывяла да ўмацавання сталінскай дыктатуры. Індустрыялізацыя краіны яшчэ толькі пачалася. Таму, на думку сталінскага кіраўніцтва, неабходна было адцягваць «непазбежную» вайну з капіталістычным светам да больш зручнага часу. Сталін лічыў, што ў надыходзячым «новым туры войн» СССР «давядзецца выступіць», але выступіць ён апошнім. «І мы выступім для таго, каб кінуць вырашальную гіру на вагі, гіру, якая б магла пераважыць».

Палітычны сакратарыят Выканкама Камінтэрна прыняў пастанову «Аб становішчы ў Заходняй Беларусі», у якой прызнаў недапушчальным узброенае паўстанне ў краі вясной 1927 г. Перад пачаткам працэсу над «Грамадой» урад СССР праз свайго прадстаўніка ў Польшчы **прасіў Міністэрства замежных спраў прыняць меры, каб звесткі аб дачыненні СССР да дзейнасці «Грамады» не трапілі ў друк.** Згода на гэта была атрымана, нягледзячы на тое, што цалкам кантраляваць органы друку польскі ўрад не мог (а ў гэтым выпадку, напэўна, і не імкнуўся). Як бы там не было, але ва ўзніклай сітуацыі бальшавіцкі і санацыйны рэжымы добра разумелі адзін аднаго. Для іх пытанне аб «Грамадзе» было толькі сродкам для вырашэння іншых задач, якія лічыліся больш важнымі ў гэты час.

Такім чынам, Беларуская сялянска-работніцкая грамада, якая вырасла на грунце беларускага нацыянальна-вызваленчага руху і антыпамешчыцкай барацьбы сялян, стала ахвярай дзвюх дыктатур — бальшавіцкай і санацыйнай. Пазней гэты лёс напаткаў увесь беларускі нацыянальны рух.

палы і Якуба Коласа."

Ці ж нам гэта трэба шукаць затаптаныя сцяжынкі да сваіх песняроў за акіянам?

Ці ж мы ніколі не навучымся шанаваць свае таленты, падтрымліваць, берагчы і ганарыцца імі пры іх жыцці? А не пагарджаць імі?

Ці ж можа шуканне наша Скарыны ў Празе і Італіі, Арсеневай у ЗША, Міцкевіча ў Польшчы надаць нам моцы ўтрымаць сваіх пракрокаў у сваёй Айчыне?

❑

Спадарства Кіпеляў і дзецям сваім заклала ў душы нешта істотнае.

Алеся скончыла Прынстанскі універсітэт з дысертацыяй "Дапамога АРА СССР", частка якой "Амерыканская дапамога БССР" была друкаваная. Каб паступіць у гэты універсітэт, мала толькі здаць экзамены, трэба было прайсці некалькі апытанняў (там працаваў А.Энштэйн, гэта адзін з лепшых універсітэтаў ЗША).

І вось Алеся Кіпель прайшла два апытанні, яе выклікалі на апошняе: "У чым твае адрозненне ад усіх?" (Ці не цікавае пытанне і для нашых студэнтаў і... не толькі студэнтаў!)

І ведаеце, што Алеся адказала?.. "Хто з вашых студэнтаў ведае беларускую мову?.. А я ведаю, і нават рэдагую часопіс "Беларуская моладзь". Тады ўжо прафесар падумаў і — пагадзіўся!

Потым Алеся (бачыце, у Амерыцы — і Алеся, а чаму ж на Беларусі — Анжэлікі?) скончыла яшчэ ў Вашынгтоне Джорджтаўн-універсітэт, дарэчы, той жа, што і прэзідэнт Біл Клінтан, факультэт права дц працуе цяпер адвакатам, друкуючы шмат артыкулаў у розных часопісах.

І вось я пытаюся ў Алесі:

— Што ёсць для цябе Беларусь?

— Можна было б цікавей, двухчасткавае пытанне: чым была Беларусь для мяне і чым будзе?.. Беларусь заўсёды была для мяне краінай маіх дзядоў і бацькоў, і мы выхаваліся ў пашане і любові да гэтай краіны, але, на жаль, яна была нам недаступнай. Цяпер яна даступная, і мы спадзяёмся, што Беларусь у палітычных і эканамічных справах зойме раўнапраўнае месца ў Заходняй Еўропе, падкрэсліваю, Заходняй, бо лічу, што наша гісторыя і традыцыі звязаны больш з Захадам, чым з Усходам. Прыкладаў ёсць шмат, што Беларусь была часткай заходнееўрапейскай культуры. Гэта мяне асабліва ўразіла гэтым летам, калі я пабывала ў такіх гістарычных гарадах, як Гародня, Навагрудак, Нясвіж і іншых. Гэта відавочна па самой архітэктуры. Дзіўна мне, што пра гэта мала вядома шырэйшаму свету.

— Але ж, Алеся, Беларусь — гэта не толькі архітэктура і гісторыя.

— Так. У першую чаргу — гэта народ. І мяне вельмі прыемна ўразіла, які ён шчыры, гасцінны і ветлівы. Спадзяюся, што ў блізкай будучыні будзе заможным. А каб гэта сталася, вельмі важна, каб законы і Канстытуцыя прадугледжвалі і падтрымлівалі стабільную эканамічную базу і свабоду чалавека ў сваёй незалежнай краіне. Для мяне як для адваката гэта здаецца фундаментам, без якога нельга будаваць дзяржаву.

❑

Аб Юрку Кіпелю. Ён скончыў Ратгерскі універсітэт (той жа, што і бацькі), потым — медыцынскі факультэт ва універсітэце Норэста ў Мексіцы ды пераздаў дыплом доктара медыцыны ў Нью-Йорку. Спецыяліст у галіне дзіцячай кардыялогіі.

Газета "Джэрсі-сіты Джорнал" надрукавала такі рэпартаж: "Ва універсітэцкім шпіталі штата мае адбыцца вельмі складаная аперацыя на сэрцы двухмесячнага дзіцяці. Бацькі дзіцяці вырашылі перад аперацыяй яго пахрысціць. На хроснага бацьку запрасілі доктара Юрку Кіпеля — дзіцячага кардыёлага, які будзе ўдзельнічаць у аперацыі". Потым друкавалася інтэрв'ю з доктарам.

А я падам Юркава інтэрв'ю для "Народнай газеты":

— На вашу думку, чым беларусы на эміграцыі і вы асабіста могуць быць карыснымі для Беларусі?

— Са зменамі, што цяпер адбыліся і адбываюцца на Бацькаўшчыне, змяніліся і нашыя магчымасці ўдзелу. Раней нашыя дзяды, бацькі і мы колькі маглі стараліся перахоўваць тут, на эміграцыі, беларускую мову, культуру, традыцыі незалежнасці. Мы не ведалі, што робіцца на Беларусі, ці зможа ўсё гэта перахавацца. Мы стараліся пакадзаць людзям на Захадзе, што такое Беларусь, яе мову і культуру.

— А як цяпер?

— А цяпер наша дапамога зусім іначшая. Мы тут маем розных спецыялістаў: дактароў, адвакатаў, фінансістаў, бізнесменаў, і мы можам дапамагчы Беларусі перайсці да сапраўднай дэмакратыі. Але ж мы разумеем, што гэта нялёгкая праца. Я асабіста, як дзіцячы доктар, ведаю, што ў Беларусі ёсць розныя праблемы ў медыцыне: недахоп медыкаментаў, не гаворачы ўжо пра Чарнобыль. Калі я добра ўсталююся тут, у сваім шпіталі — а мой шпіталь універсітэцкі, — то змог бы наладзіць рэзідэнтуру для беларускіх дактароў. І яшчэ я хацеў бы паехаць на Беларусь, каб заснаваць там пераезную клініку дзіцячай кардыялогіі...

Слова за кіраўнікамі Міністэрства аховы здароўя. Звяжыцеся, калі ласка, з доктарам Юркам Кіпелем і запрасіце яго, каб нейкія беларускія дактары не страцілі магчымасці атрымаць рэзідэнтуру ў ЗША!

Мушу сказаць, што Юрка быў на Беларусі як турыст. І атрымаўся з ім цікавы, але вельмі тыповы эпізод. Неяк згубіўшы арыенцір да свайго гатэля ў Мінску, звярнуўся да першага чалавека, што быў побач, на беларускай мове. А яму ў адказ:

— Извините, я вас не понимаю...

Юрка звярнуўся да другога.

— Не понимаю!

Тады Юрка паспрабаваў запытацца сваёй сцежкі зноў. А той, трэці, спытаўся ўжо ў Юркі:

— А вы по-человечески говорить умеете?

Скажыце мне, калі ласка, дзе, у якой краіне магло б гэткае адбыцца?

❑

Артур Шнайер, славуты равін з Нью-Йорка, неяк сказаў: "Шавінізм — гэта захапленне сваёй нацыяй за кошт іншых. Непрыняцце ўкладу і традыцый жыцця іншых, акрамя свайго, ёсць нацыяналізм".

Дык выходзіць што? У нас усё наадварот! Мы не прымаем свайго? На сваёй зямлі? У сваёй Айчыне?

Хто навучыў нас гэтаму? І чаму мы набраліся гэтага? Хто гэта мусіў і мусіць рабіць? Ці ж не сям'я?

Маральныя каштоўнасці закладае ў дзіцяці сям'я. І самае галоўнае для дзіцяці — даць яму магчымасць адрозніць самому дабро ад зла!

Яўрэйскаму дзіцяці з дзяцінства ўкладаюць у галаву, што трэба вучыцца.

А мы мусім вучыцца на добрых прыкладах і ўкладаць у вушы сваім дзецям, што яны мусяць вучыцца і паважаць, любіць, памнажаць сваю зямлю. Сваю мову. Сваю культуру. Свой народ.

А калі ты будзеш вучыцца і працаваць, то дасягнеш нейкіх вышынь!

А вось калі хтосьці дасягне вышынь больших, чым мы з вамі, то не трэба зайздросціць! А радавацца! Радавацца таму, што беларус мае такую вышыню! А гэта зусім нялёгка — растапіць зайздрасць любоўю. І ёсць толькі адна дарога — праз Хрыста. І нам трэба прывесці нашых дзяцей да Яго. І навучыць іх не жадаць зла нікому. Калі перабудуецца асоба — сям'я ўзмацніцца. А ўзмацніцца сям'я — узмацніцца дзяржава.

Простая, трывіяльная ісціна, але бяда, што страцілі мы яе...

❑

Шэсць велізарных скрыняў з кнігамі прывезлі Кіпелі летась на Бацькаўшчыну. Была выстаўка ў Нацыянальнай бібліятэцы беларусі гэтых кніжак, прыйшло шмат людзей. А для Кіпеляў — гэта зноў магчымасць дакрануцца да Айчыны сэрцам, зрабіць для яе яшчэ і яшчэ раз, што магчыма, што пакуль па сілах.

— Мы б хацелі купіць дом у Беларусі, і ёсць у нас моцнае жаданне папрацаваць у галіне арганізацыйнае асветы для Бацькаўшчыны, пакуль сілы дазваляюць, і каб што з эміграцкага дасведчання можна было б ужыць на Беларусі, — сказаў мне спадар Вітаўт.

Добра было б, каб улады прынялі гэта да ўвагі.

А цяпер ужо расце чацвёртае пакаленне Кіпеляў у Амерыцы. Андрэй і Алесь — маленькія, якія ўжо таксама балбочуць па-беларуску, ганарацца беларускімі кашулькамі і чытаюць беларускі лемантар. І будзем спадзявацца, калі яны прыедуць на Беларусь і звернуцца да нашых дзяцей і ўнукаў па-беларуску, то пачуюць у адказ:

— Вельмі прыемна! Калі ласка, на зямлю сваіх продкаў, сваіх каранёў.

І будзе чутна беларуская мова, і будзе гучаць беларуская музыка, і будзе шмат дзіцячых галасоў, і зямля наша шчодра адорыць усіх, хто будзе жыць на ёй.

## Алесь АПРЫШКА:

# «НАСТАЎ ЧАС УСІМ ДЭМАКРАТЫЧНЫМ СІЛАМ БЕЛАРУСІ КАНСАЛІДАВАЦЦА»

***Са старшынёй Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі Алесем АПРЫШКАМ гутарыць карэспандэнт «Звязды»***

**— Заклікі да кансалідацыі апошнім часам чуюцца вельмі часта з вуснаў як першых асоб дзяржавы, так і грамадска-палітычных партый і рухаў. Але ж лексічнае значэнне гэтага слова не дае дакладнага ўяўлення аб тым, як і з кім кансалідавацца...**

— З вашага пытання вынікае наступнае: у імя чаго? Калі ёсць не зацёртая ідэя, а ідэал, то яно здымаецца. Для нас гэта — незалежная Беларусь, якая будуе сваю палітыку на нацыянальнай аснове. Менавіта гэта павінна з'яднаць людзей. Дарэчы, вы слушна заўважылі, што ў слова «кансалідавацца» кожны ўкладвае свой адметны сэнс. На мінулай сесіі ВС прэзідэнт заклікаў менавіта да кансалідацыі. Мы ўспрынялі гэты заклік і накіравалі ліст Лукашэнку з прапановай аб супрацоўніцтве на падмурку ідэй незалежнасці, першынства нацыянальнай ідэі, прыхільнасці да рыначных пераўтварэнняў на Беларусі.

**— Напэўна ж ідэал, аб якім вы кажаце, прываблівае не толькі вашую партыю. Але ж нешта правага альянсу ў грамадстве не атрымліваецца. Усё часцей кажуць аб расколе сярод правых і як вынік — утварэнне двух аргкамітэтаў па святкаванню бітвы пад Оршай, адзін з якіх узначальвае БНФ, другі — прадстаўнік БЗВ...**

— Проста свята, якое павінна быць святам для ўсіх, будзе адзначацца шырэй. Я не назваў бы гэта расколам. Зразумела, што дэмакратычны рух прадугледжвае свабоду думак і права кожнага чалавека знаходзіць партыю ці рух, які найбольш адпавядае яго асабістым сімпатыям. Іншая справа, што ўсё гэта не павінна ператварацца ў хаос. А каб гэтага не адбылося, ёсць пэўныя кропкі судакранання, якія яднаюць усіх. У крытычныя моманты гісторыі менавіта ідэя становіцца яднаючай сілай.

**— Вы лічыце, што такі момант надышоў?**

— Так. Няпэўнасць становішча, у якім зараз апынулася Беларусь, вымушае ўсіх прыхільнікаў суверэннай Беларусі з'яднаць свае намаганні ў тым, каб не даць развіцца ідэі скасавання нашай дзяржавы. Тым больш, што набліжаюцца парламенцкія выбары і ад таго, хто трапіць у ВС Беларусі, будзе залежаць лёс нашай Бацькаўшчыны.

**— Ці не здаецца вам, што вада панікі расплюхалася раней, чым паднялі сасуды!**

— На гэта ёсць падставы. Мяне вельмі засмучаюць зняважлівыя адносіны да беларускай мовы. Яшчэ больш засмучаюць заявы аб тым, што 80 працэнтаў беларусаў хочуць далучыцца да Расіі, а выказванні пра старэйшага «рускага брата» не вытрымліваюць ніякай крытыкі. Складваецца ўражанне, што мы жывём без канстытуцыйных нормаў. Іншая справа, што не ўсё тое, што гаворыцца, увасабляецца на практыцы. Мы падтрымліваем працэс рэфарміравання эканомікі.

**— Наколькі апраўданы меркаванні аб тым, што поспехаў у рэфарміраванні эканомікі можна дасягнуць метадам жорсткай дысцыпліны!**

— Толькі эканамічная зацікаўленасць суб'ектаў гаспадарання здольна вывесці краіну з эканамічнага крызісу. Наіўна меркаваць, што 70 гадоў дырэктар саўгаса кіраваў кепска, а вось толькі варта яго прымусіць, як ён прагне кіраваць добра. На дзяржаўным узроўні прымусу быць не павінна — павінна быць рэгламентацыя, бо ўсё, што зараз робіцца, у канчатковым выніку павінна ісці на карысць чалавека.

**Рубрыку вядзе Юрась КАРМАНАЎ.**

ЗВЯЗДА



# ГІМН РАДЗІМЕ

Беларускае замежжа — яшчэ колькі гадоў таму амаль невядомае, стала тэмаю нашай вялікай цікавасці. Магутная плынь беларускай культуры, набыўшы ўплыў іншых народаў і краін сьвету, захаваўшы нашу мову, мастацтва, прагу да жыцьця, любоў да радзімы, глыбока кранае нас.

Мы з радасьцю сустракаем на роднай зямлі творы Тамары Стагановіч, яе выставу "Амэрыка, мая Амэрыка" і ганарымся сапраўдным інтэрнацыянальным пачуцьцём нашай слаўнай Беларускі, якая так глыбока і пяшчотна прасякнута гарачай любоўю да людзей Зямлі, іх волі, свабодалюбства. Знайшоўшы сваю другую радзіму ў Амэрыцы, Тамара Стагановіч праўдзіва гаворыць аб тым, што цяжка і немагчыма пісаць аб Беларусі, жывучы далёка ад яе, таму яе цыкл твораў аб Амэрыцы ёсьць і своеасаблівы гімн Радзіме ўвогуле, фарбам Зямлі і Сьвету. Жыцьцё шпарка рухаецца ўперад, усё ідзе да таго, што кожны з нас будзе мець магчымасьць свабодна наведаць сваю і замежную радзіму, прымаць удзел у яе ахове, зберажэньні і стварэньні новых каштоўнасьцяў дзеля нашчадкаў сваіх і іншых народаў. Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь з нецярплівасьцю чакае магчымасьці адкрыцьця пастаяннай экспазіцыі мастакоў Беларускага замежжа ў сваіх залах, а сёння сардэчна вітае творы Тамары Стагановіч на яе выставе.

"КУЛЬТУРА"

**Юрась КАРАЧУН, дырэктар Нацыянальнага Мастацкага музея Беларусі, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь**

# КАНФЕРЭНЦЫЯ ВЫКЛАДЧЫКАЎ

У сталіцы рэспублікі прайшла міжнародная канферэнцыя выкладчыкаў англійскай мовы з удзелам прадстаўнікоў Літвы, Латвіі, Польшчы, Расіі, Вялікабрытаніі, ЗША, розных гарадоў нашай краіны. Выступаючыя адзначылі ўзрастаючую ролю англійскай мовы і падкрэслілі неабходнасць паляпшэння ўзроўню яе выкладання ў школах і вышэйшых навучальных установах.

**Уладзімір СТАРАСЦЕНКА.**

*Платная рэлігійная Абвестка*



## Невялікі юбілей

**Юбілейны -- пяты па ліку -- сезон пачынае Слонімскі беларускі драматычны тэатр.**

У тэатральным партфелі нямала новых твораў. Акцёры парадуюць дзяцей спектаклямі па п'есах Яўгена Шварца "Чырвоная Шапачка" і слонімскага аўтара Аляксея Якімовіча "Апошні дыназаўрык". А дарослыя змогуць пабачыць на сцэне пастаноўкі п'ес Мальера "Хітрыкі Скапэна", Уладзіміра Галубка "Каханне з падманам", а таксама невядомага для шырокага кола драматурга, які быў двойчы рэпрэсіраваны, Тодара Лебяды "Загубленае жыццё".

*Кастусь МЯРЛЯК:*

## "Эміграцыя хоча дапамагчы Беларусі. Але, здаецца, улады гэтага не жадаюць".

Алег ГРУЗЬДЗІЛОВІЧ,
аглядальнік "Народнай газэты"

Мой суразмоўца — чалавек добра вядомы ў беларускіх эміграцкіх колах у ЗША і Аргенціне. Нядаўна тут, у Мінску, адбылася прэзентацыя кнігі яго ўспамінаў, у якой ён распавядае пра падзеі, сведкам альбо непасрэдным удзельнікам якіх быў. Жыццёвыя шляхі Кастуся Мерляка сапраўды вельмі багатыя на нечаканыя павароты і нават прыгоды. Пачаліся яны ў Заходняй Беларусі і праз Польшчу, Нямеччыну, Італію, Аргенціну дацягнуліся да Амерыкі, адкуль ён зараз прыязджае не госцем, а сваяком.

— Толькі першы год у школе нам выкладалі па-беларуску, — расказвае спадар Мярляк — а потым прыехала польская выкладчыца і далей я вучыўся па-польску. Калі да нас на Наваградчыну прыйшлі Саветы, я ўжо меў прафесію бухгалтара і таму досыць лёгка ўладкаваўся на працу ў банк у Карэлічах. Там патрэбна было авалодаць рускай мовай. Авалодаў. Але яшчэ раней я сустрэў у Навагрудку шмат людзей, якія паставілі мэтай свайго жыцця адрадзіць беларускую мову, адрадзіць нашу незалежнасць. Я асэнсавана трапіў у іх кола і з таго часу не здрадзіў гэтай справе. Потым, падчас нямецкай акупацыі, няблага авалодаў нямецкай мовай. Калі трапіў у Італію — італьянскай і англійскай, у Аргенціне — іспанскай, якую выкарыстоўваю, як і англійскую, свабодна. Але маёй роднай, любай застаецца беларуская. У асяроддзі беларусаў у эміграцыі мы размаўляем толькі па-беларуску — інакш немагчыма.

**— Мне вядома, што ў Аргенціне вы былі прадстаўніком Рады Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР), гэтага беларускага ўрада ў выгнанні. У Злучаных Штатах пэўны час узначальвалі Управу Беларуска-амерыканскага Задзіночання, потым арганізацыю гэтага аб'яднання ў Нью-Йорку. Дзеля чаго ствараліся такія арганізацыі? Ці былі яны штучнымі з'явамі, як тое сцвярджала савецкая прапаганда?**

— Па-першае, арганізацый было вельмі шмат, і за ўсе я адказаць не магу. Былі і культурныя, і грамадска-палітычныя і нават спартыўныя. Асабіста я ўзначальваў у Аргенціне Згуртаванне беларусаў. Мы рабілі палітычныя акцыі за незалежнасць Беларусі, святкавалі нашы святы, дапамагалі беларусам прыехаць у Аргенціну і там уладкоўвацца. Прынамсі, існавалі і такія арганізацыі, якія агітавалі беларусаў вяртацца на Радзіму — імі кіравалі менавіта з Масквы. Вядома, што між намі было супрацьстаянне. У Аргенціне мы паспрабавалі аб'яднаць беларусаў шляхам нашага асабістага праваслаўнага прыходу. Тады гэта не ўдалося, а вось у Нью-Йорку было зроблена і прыносіць плён — там беларусы больш актыўныя.

**— Але, наколькі мне вядома, гэта не пазбавіла іх ад расколу. Адзінства няма нават у рэлігійных справах...**

— Так. Увогуле адзінства дасягнуць складана, тым больш ва ўмовах эміграцыі. Але адкажу на вашу рэпліку больш канкрэтна. Раскол на тых, хто падтрымліваў Беларускую цэнтральную раду (БЦР) на чале з прафесарам Астроўскім і раду Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР), якую узначальваў Абрамчык, быў, на мой погляд, штучна створаны. Кім? Пасля таго, як спадар Абрамчык аднавіў урад БНФ у эміграцыі, прафесар Астроўскі, якім кіравалі англічане, аднавіў БЦР. А на чале таго самага аддзела брытанскай разведкі, які пачаў кіраваць гэтай арганізацыяй, стаяў Кім Філбі, як мы ведаем зараз, савецкі шпіён. Вось і вырашайце зараз, хто арганізаваў раскол.

**— Чым можа дапамагчы эміграцыя Беларусі зараз? Калі ў нас заходзіць гаворка пра эмігрантаў з Амерыкі, то большасць упэўнена, што з вас трэба "даіць" грошы.**

— Хто чым можа, той хай тым і дапамагае. Мы неаднойчы збіралі і грошы, напрыклад, на лекі для чарнобыльскіх хворых. Вось толькі не заўсёды яны да вас даходзілі — быў выпадак, калі адзін ваш дэпутат гэтыя грошы прысабечыў. Але больш важны плён вам прынясе наш вопыт, нашы сувязі, нашы ідэі. Іх толькі трэба выкарыстоўваць. Дарэчы, я добра ведаю справу ў транспартных перавозках, і лётных і марскіх. Ну, мора ад Беларусі далекавата, а добрыя лётныя сувязі са светам вам вельмі патрэбны.

Па сваёй ініцыятыве я распрацаваў план стварэння сумеснай з амерыканскім бізнесам беларускай лётнай кампаніі і накіраваў яго да вас. Прапановы гэтыя апынуліся ў Мінскім гарвыканкаме, яны нават збіраліся запрасіць мяне як дарадцу, але не запрасілі. І гэта паказальна, што ні ў мінулага, ні ў новага ўрада няма ніводнага дарадцы з ліку сацыялістаў з Захаду, якія добра ведаюць, як рабіць бізнес. Эміграцыя хоча дапамагчы Беларусі, але, здаецца, улады гэтага не вельмі жадаюць. Лічаць, што яны разумнейшыя.

**— Як вы пачуваеце сябе тут, на радзіме?**

— Мне вольна дыхаецца. Бачу ветлівых, прыгожых людзей, па якіх я вельмі смуткаваў. Жывецца ім цяжка, вось што мяне турбуе. У маёй Дзятамлі ў краме толькі хлеб ды нейкі сок. Людзі зарабляюць мала, самі кажуць, што крадуць патроху — хто як выкручваецца. Заўважыў, што амаль трэць тых зямель, дзе раней былі палі, дзе я сам працаваў, зараз альбо пад лесам, альбо на той зямлі нічога не расце. Зямля засталася без добрага дагляду, без гаспадара, гэта для мяне відавочна. Будзе гэтак і далей — згубіце зямлю, згубіце Беларусь. А можа, хопіць розуму — не згубім?..

### BELARUS : SUPREME COUNCIL CONVENES NEW SESSION

The 16th session of the Supreme Council of the Republic of Belarus began its work in Minsk today. The focal point of the session will undoubtedly be a discussion on the **Program of Urgent Anti-Crisis Measures**, submitted by President Lukashenko. Parliament's Chairman Grib emphasized that all anti-crisis efforts in Belarus have so far failed to produce positive results. For the first 8 months of the current year as compared with the same period of the last year, for example, the national income of Belarus dropped by 27%. Hence the special attention and importance attached by the Supreme Council to the Program.

The session's agenda also includes the examination of the draft law on setting up Free Economic Zones in Belarus, as well as consideration of other new legislation and ratification of a number of international agreements.

It was emphasized by the Cabinet of Ministers members that the Program incorporates the International Monetary Fund proposals. According to President Alexander Lukashenko, this Program is the first and most important document, to be followed by other measures, which will serve as a basis for leading the country through a vigorous reform effort out of economic crisis.

On the eve of the session President Lukashenko addressed a message to the Parliament. Having emphasized his deep anxiety over a difficult economic situation the country is facing, Alexander Lukashenko stated that anti-crisis measures should be taken urgently and the system of governing the state should be reformed. The President urged the parliamentarians to explore common grounds and compromise.

## РАЗАМ АБО ПААСОБКУ?

**У час першага этапа прэзідэнцкіх выбараў многім выбаршчыкам дэмакратычнай арыентацыі прыйшлося вырашаць складаную дылему -- аддаць галасы за Зянона Пазняка або Станіслава Шушкевіча? Ці не ўзнікне падобная сітуацыя на маючых адбыцца парламенцкіх выбарах?**

**Занепакоенасць у сувязі з гэтым прагучала на семінары «Геапалітыка, інтэграцыя, прагрэс», які праводзіўся ў Мінску. Яго ўдзельнікі з Віцебскай і Магілёўскай абласцей абмеркавалі тактыку і стратэгію на бліжэйшую выбарчую кампанію. Разгледжана таксама магчымасць стварэння асацыяцыі, якая будзе арганізацыйнай структурай дэмакратаў на выбарах у Вярхоўны Савет. Сярод магчымых заснавальнікаў такога блока, па тыпу «Вясна-94», -- Еўрапейскі гуманітарны універсітэт, Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада, рагачоўскі завод «Дыяпраектар» і іншыя. У сваю чаргу на пасяджэнні сойма Беларускага народнага фронту прыняты зварот да Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі, Партыі народнай згоды, іншых партый дэмакратычнага напрамку з прапановай скаардынаваць тактыку і стратэгію на парламенцкіх выбарах. Справа цяпер за малым -- сесці за стол перагавораў.**

**Белінфарм.**

Мацьвей Рэпкаў – Смаршчок

ЭПІТАФ (сьлядамі Рупэрта Брука)

*Бяжы, коню, дарогаю,*
*бяжы, коню, шырокаю –*
*к майму сялу, к майму двару,*
*к вароцікам цісовенькім.*

*Выйдзе цябе сустракаці*
*сястра мая й стара маці*
*---------------------------*
*---------------------------*
*Не каж, коню, што ўбіт ляжу...*

*(З беларускае народнае песьні)*

Я з дарогаў далёкіх а горкіх аніколі к табе не вярнуся
дарагая матуля-зямля.
У чужым, няведамым полі
мае косьці збутлеюць. Не аплача мяне Ярослаўна
у Падлесьсі, родным сяле. Ня схіляцца вербы, рабіны
над магілай забытаю. Толькі вецер з над Нёмана, Лані
мо над ёю павее калісьці – зашапоча ў быльлі на кургане.

І ня вернецца конь мой буланы да парогу роднае хаты
каб хоць вестку к табе данясьці пра мяне, што загінуў
без сваіх, без цябе, мой аграблены Краю Забраны.

Я зарокся цябе не забыць анідзе, аніколі –
і вялікую ласку к табе я панёс
скрозь гады і нягоды
і вазьму я з сабой у магілу забытую гэту.

Не кажы пра мяне, што загінуў дарма, пустацьветам –
пад мурогам чужым, у далёкай, нянашай краіне
будзе пораху жменя, што пайшла з беларускага роду,
з беларускай ральлі.
Тая пораху жменя,
той куточак чужое зямлі – то навекі шматок Беларусі.

Сьніцца будзеш ты мне, мой краю палеткаў ільняных
ў раньні сьветлага дня, ў васількавае сіні вузорах...
Хоць далёка магіла мая, хоць і згіну ня ў пору
я з табою навекі – там дзе моляцца сонцу разоры.

Пад чужым, глухім дзірваном, што берамем ляжа на грудзі
сьніцца будзе мне вецер той сьвежы з над Нёмана, Лані, –
і адна толькі скарга ў мяне –
што мяне там ня будзе
калі ў новую вясну ты сустрэнеш сваё сьвітаньне.

1988 г.

Мантысэля, што ў штаце Мінэсота.

## АМАЛЬ УСЕ ПАДРУЧНІКІ ДЛЯ ШКОЛ ВЫПУШЧАНЫ Ў БЕЛАРУСІ.

Мяркуючы па выпуску падручнікаў для гэтага навучальнага года, Закон аб мовах стаў адным з асноўных для беларускіх выдавецтваў. На сённяшні дзень у нашай рэспубліцы выпушчана 88 назваў падручнікаў на беларускай мове і 33 назвы -- на рускай. Трэба сказаць, што амаль уся пачатковая школа перайшла на беларускае выкладанне. Яна поўнасцю забяспечана арыгінальнымі беларускамоўнымі падручнікамі, складзенымі ў рэспубліцы. Нават падручнік па рускай тут «свой» (для рускамоўных школ ён закупляўся ў расійскага выдавецтва «Просвещение»). У дадзеным выпадку толькі «Матэматыка» — перакладная. Аб колькасці экземпляраў і гаварыць няма чаго: беларускіх кніжак значна больш. Напрыклад, «Матэматыка» на беларускай мове выдадзена тыражом прыкладна ў 150 тыс. экземпляраў, у той час як на рускай выйшла каля 40 тыс. экземпляраў. Дарэчы, «Чалавек і свет», тая ж «Матэматыка», «Буквар», «Вучэбны дапаможнік па радыяцыйнай бяспецы», «Сшытак па азнаямленню з наваколлем» — вось амаль і ўсе падручнікі, якія маюць аналагічных «канкурэнтаў» на рускай мове ў пачатковай школе.

У старэйшых класах абстаноўка крыху іншая. Тут шмат перакладных падручнікаў: па хіміі, фізіцы, алгебры і г. д. І тыраж набліжаецца да рускамоўных. Але не намнога. Так, алгебры для 8-х класаў на беларускай мове выпушчана 19,6 тыс. экземпляраў, на рускай — 21,7, матэматыкі для 5-х класаў — адпаведна 15,6 і 41,8 тыс. экземпляраў. Аднак усе нацыянальныя падручнікі па гісторыі, геаграфіі, беларускай мове і літаратуры адпавядаюць патрабаванням беларусізацыі.

Наогул, самае вялікае дасягненне апошняга часу ў тым, што амаль уся літаратура для школ выпушчана ў Беларусі. Паліграфічная база нашай рэспублікі на гэты раз адолела 11,7 млн. экземпляраў. З 3,5 млн. экземпляраў, якія мы прасілі ў Расіі, прыйшла толькі чацвёртая частка, паколькі выпуск падручнікаў у суседняй дзяржаве з-за недапляцажоў быў прыпынены аж на тры з паловай месяцы.

**Ганна ЛАГУН.**

**ЗВЯЗДА**

## ДВАЦЦАЦЬ ЧАТЫРЫ ДАРОГІ ДА БОГА

Паводле даных, атрыманых БелаПАНам у Савеце па справах рэлігіі пры Кабінеце Міністраў, у Беларусі налічваюцца 1772 рэлігійныя абшчыны, з іх 271 пакуль не зарэгістравана. У іх ліку праваслаўных — 863 абшчыны, каталіцкіх — 341, стараабрадніцкіх — 29, грэка-каталіцкіх і новаапостальскіх — па 11, іудзейскіх — 14, ісламскіх — 13, евангельскіх хрысціян-баптыстаў — 174, хрысціян веры евангельскай — 242, адвентыстаў Сёмага дня — 226, хрысціян веры апостальскай — 29, хрысціян поўнага Евангелля — 13, сведкаў Іеговы — 4, паслядоўнікаў царквы Хрыста і багародніцкага цэнтра, а таксама бахаістаў і мармонаў — па 36, крышнаітаў — 7, сходу хрысціян, кальвіністаў, дзэн-будыстаў, евангелістаў, паслядоўнікаў замежнай праваслаўнай царквы — па 1, лютэран — 2.

**Марат УРУБЛЕЎСКІ**
**БелаПАН.**

## РАЗВІЦЦЮ ІНТЭЛЕКТУАЛЬНАГА ПАТЭНЦЫЯЛУ БЕЛАРУСІ БУДУЦЬ СПРЫЯЦЬ ЗША

1 верасня пасольства і Інфармацыйная служба ЗША распачалі на Беларусі конкурс на сайсканне стыпендый для маладых спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй не старэй за 40 гадоў па праграме навучання ў ЗША на 1995 год -- Эдмунд С. Маскі і Акт у падтрымку свабоды. Абедзве праграмы будуць фінансаваць пераможцаў конкурсу на працягу аднаго альбо двух гадоў навучання ў амерыканскіх універсітэтах у галінах: кіраванне камерцыйнай дзейнасцю, дзяржаўнае кіраванне, грамадская палітыка, СМІ і журналістыка, юрыспрудэнцыя, эканоміка, кіраванне адукацыяй, інфарматыка і бібліятэказнаўства. Гэта павінна дапамагчы незалежнай Беларусі стварыць свабодна зарыентаваную эканоміку, а таксама -- праз навучанне спецыялістаў -- дэмакратычнае грамадства. Для тых, хто вырашыў удзельнічаць у конкурсе, дадатковую інфармацыю можна атрымаць па мінскім тэлефоне 62-88-88.

"ЗВЯЗДА" **Юрась КАРМАНАЎ.**

*"Беларускі Дайджэст" патрабуе*
**Вашае грашовае дапамогі!!!**




IN MEMORIAM

Сьвятой † Памяці
УЛАДЗІМЕР КІТОЛЬСКІ



трагічна загінуў на месцы сваё працы 15-га Кастрычніка 1994 году і адыйшоў на вечны супачынак.

Сьвятой Памяці Уладзімер (Волтэр, Валодзька) нарадзіўся 23-га Студзеня 1963 г. у штаце Мішыган ад бацькоў, якія паходзяць з Магілёўшчыны ў Беларусі.

Няхай Мішыганская зямля будзе яму пухам!
ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!!!

Пакінуў у смутку бацькоў, брата і дзьве сястры з сем'ямі.




IN MEMORIAM

Сьвятой † Памяці
ЭЎДОКІЯ ЖЫЗЬНЕЎСКАЯ



20 верасьня 1994 г. у Чыкага на 94-м годзе жыцьця адыйшла ў вечнасьць Эўдокія Жызьнеўская, пакінуўшы ў смутку дачку Веру Рамук з мужам Др. Вітаўтам і іх дзяцьмі Ірэнай і Янкам з сем'ямі ды сына Нікадэма з жонкай Аннай (Грынько) і іх дзяцьмі Марыяннай, Валодзем, Юркам і Ліляй з іх сем'ямі.

Паховіны Сьв. Пам. Эўдокіі Жызьнеўскай адбыліся 24-га верасьня 1994 г. з беларускай каталіцкай Царквы ўсходняга абраду – Хрыста Збаўцы ў Чыкага. Цела пакойная спачыла на магільніку сьв. Адальбэрта. Пахавальны абрад выканалі айцы Язэп Сыру і Ангел Марзал. Разьвітальнае слова над магілай сказаў зяць пакойнай – Др. Вітаўт Рамук і ўнук Янка Рамук.

Сьв. Пам. Эўдокія Жызьнеўская, з дому Гапанёнак, была родам з засьценку Паляніны, што каля Крулеўшчыны ў Віцебскай вобласьці. Сьв. Пам. Эўдокія заўсёды ўважала сябе шляхцянкаю. Засталіся ў Яе ў Беларусі і на Літве блізкія і далейшыя родзічы.

Сьв. Пам. Эўдокія Жызьнеўская пакінула Беларусь у 1944 годзе аставіўшы там магілу свайго 19-ці гадовага старэйшага сына Ўладзімера, жыцьцё якому адабралі чырвоныя партызаны.

У ЗША Сьв. Пам. Эўдокія Жызьнеўская прыехала ў 1949 г. з мужам Сьцяпанам, сынам Нікадэмам і дачкой Верай. Муж Сьцяпан памёр у 1962-м годзе.

У дзень паховін Сьв. Пам. Эўдокіі Жызьнеўскай адбыліся аднačасна паніхіды ў Беларусі і Літве.

Хай успамін аб гэтай добрай і ахвярнай Беларусцы-патрыётцы Эўдокіі Жызьнеўскай вечна жыве ў сэрцах тых, хто Яе ведаў!

Хай пухам будзе Ёй заўсёды і для ўсіх свабодалюбімая амэрыканская зямля!

Вечная Памяць!!!

## Eudokia Žyźnieŭski; promoted Belaruś

By Kenan Heise
Tribune Staff Writer

Eudokia Zyznieuski, 93, a retired domestic worker, made small Belarusian costumes and dressed dolls with them. In the last 20 years, she gave away more than 130 of them to spread the knowledge about the authentic dress of her native land.

A resident of the Northwest Side, she died Tuesday in the Central Nursing Home, 2450 N. Central Ave.

Mrs. Zyznieuski presented her first doll to the late Mayor Richard J. Daley in 1975 to show that a doll he had been given bearing the likeness of Olympic gymnast Olga Korbut was wearing Russian clothing instead of Korbut's native Belarusian dress.

Mrs. Zyznieuski also designed, embroidered and sewed full-size Belarusian costumes for her son and daughter, her grandchildren and the dancing groups that her daughter, Vera Romuk, directed.

"She was outgoing and very energetic," said her daughter. "She was a driving force to promote the name of Belarus to American audiences. She always found time and money from her meager pension to promote the worthy cause of her Belarusian heritage."

When Mrs. Zyznieuski was born in 1900, Belarus was part of the Russian czarist empire that had been renamed the Northwestern Region. At the outbreak of World War I, Czar Nicholas II closed the schools in the area and deprived her and other students her age of a higher education. She became, as a result, a seamstress-designer.

She and her late husband, Stefan, brought their two children to the United States in 1949, settling first in Peoria. She worked as a domestic worker there and in Chicago.

Survivors, besides her daughter, include a son, Nikodem "Nick"; six grandchildren; 10 great-grandchildren; and a sister.

Visitation will be from 3 to 9 p.m. Friday in the Muzyka Funeral Home, 5776 W. Lawrence Ave., with Panichida services at 7:30 p.m.

Mass for Mrs. Zyznieuski will be 9:30 a.m. Saturday in Christ the Redeemer Belarusian Catholic Church, 3107 W. Fullerton Ave.

## ТРАНСПАРТНЫ КАЛІДОР БЕРЛІН— МАСКВА ПРОЙДЗЕ ПРАЗ БЕЛАРУСЬ

6—8 верасня ў Мінску праходзіць рабочая нарада прадстаўнікоў Сусветнага банка, Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця, іншых міжнародных арганізацый і прадстаўнікоў транспартных ведамстваў Германіі, Польшчы, Беларусі і Расіі, прысвечаная разгляду эканамічных і юрыдычных пытанняў інвестыцый і будаўніцтва транспартнага калідора Берлін — Варшава — Брэст — Мінск — Масква. На нарадзе рыхтуецца шматбаковае пагадненне аб распрацоўцы гэтага праекта. Працяг размовы плануецца правесці 12—13 верасня ў Брусэлі ў камісіі ЕС па транспарту. Як паведаміў адзін з удзельнікаў нарады, галоўны інжынер Беларускай чыгункі У. Барысюк, на нарадзе адзначалася недасканаласць заканадаўства Беларусі і Расіі для маштабных інвестыцый. Замежны капітал у Беларусі пакуль што не можа ажыццяўляць збор плацяжоў на тэрыторыі краіны, купляць зямлю, не прыняты яшчэ закон аб канцэсіях.

Аднак заходнія партнёры хацелі б, каб у ажыццяўленні «транспартнага калідора» ўдзельнічаў найперш прыватны капітал.

Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця ўжо выдзяляе Мінтранспарту Беларусі крэдыт у памеры 45 млн. экю для рэканструкцыі 230-кіламетровага ўчастка «алімпійскай» шашы на працягу 1994—1997 гадоў. Дарога будзе платнай.

Чыгунка распрацоўвае таксама дакументацыю аб укараненні да 2005 года скораснай трасы ў межах транспартнага калідора Берлін — Масква (з рухам цягнікоў да 200 кіламетраў у гадзіну), а да 2010 года мяркуецца яе пераўтварыць у высакаскарасную (350 кіламетраў у гадзіну і болей). Як зазначыў У. Барысюк, Беларуская чыгунка мяркуе зрабіць гэта за ўласныя сродкі.

Валер КАЛІНОЎСКІ.
"ЗВЯЗДА"



## НІ ГОРДАСЦІ, НІ ГОДНАСЦІ

### ПРА БЕЛАРУСКІ МАНКУРТЫЗМ У АДНОЙ РАСІЙСКАЙ ТЭЛЕПЕРАДАЧЫ

Маскоўская тэлекампанія «Мір» 26 чэрвеня гг. паказала па астанкінскім канале саракахвілінную перадачу «Дорога: Россия — Беларусь». Мне адразу ж падалося, што рыхтавалася яна да нашых прэзідэнцкіх выбараў, адно што прыпазнілася з эфірам. Прынамсі, змест яе цалкам адпавядаў пазіцыі і праграме кандыдата-прэм'ера, стратэгічным планам беларускага ўрада ў цэлым. І хоць аўтары — за кадрам — падкрэслівалі забаўляльны характар перадачы, *палітыкай тхнула ў ёй амаль з кожнага інтэрв'ю, амаль з кожнай песні.* Дый песень, якія ўжо традыцыйна суправаджаюць агітацыю за любога кандыдата, прагучала ўсяго чатырыпяць — што ж тут забаўляльнага?

А між тым удосталь «назабаўлялі» расійская, беларуская ды іншага тэлегледача угоднікі, калі не сказаць лёкайскія, пасажы пераважнай большасці «давальшчыкаў» інтэрв'ю з Беларусі маскоўскаму тэлебачанню: «зорак» эстрады, іншых прадстаўнікоў нашай культуры, а таксама не менш вядомага старшыні калгаса, работнікаў аднаго з заводаў Смаргоні, нарэшце «жены военного». Зладжаны, я вам скажу, атрымаўся хор! Шматгалосся не было: усе, за выключэннем хіба што Ігара Лучанка, які трымаўся ўсёткі дастойна, цягнулі адну і тую ж сумнавядомую «песню» — аб тым, што мы, беларусы, не толькі «не можем без России», але і не ўяўляем сябе людзьмі на сваёй праквечнай зямлі.

Наваt дзіўна, што ў назве перадачы наша рэспубліка стаіць другой: дарога ж намячаецца палітыкамі ў адваротным кірунку — гэта ж Беларусь павінна прайсці па рублёвай ці яшчэ якой зоне, каб далучыцца да Расіі. Кажу «палітыкамі», але і прадстаўнікамі нашай інтэлігенцыі — таксама. «Да какое мы государство? — наіўна ці, хутчэй за ўсё, саркастычна задае рытарычнае пытанне Зоя Луцэвіч, студэнтка мінскай мастацкай вучэльні. — Смешно!» І смяецца на ўвесь экран... Сумняваецца ў суверэннасці сваёй дзяржавы і папулярны эстрадны спявак Анатоль Ярмоленка, запабягаючы ўласным развагам агаворкаю «если», бо, маўляў, усе мы «в Стране Советов родились». Ну, а ў ягонага калегі Аляксандра Ціхановіча сумненняў няма ніякіх: «Нужна одна мощная страна с одним президентом...»

Прыкра, а часам і агідна было слухаць і пазіраць, як удзельнікі перадачы проста са скуры вылузваліся, каб дагадзіць яе стваральнікам (і заказчыкам?). «Все издержки белорусской независимости налицо!» — азіраючы смаргонскі завод, рэзюмуюць аўтары гэтай тэндэнцыйнай і гвалтоўнай «Дороги: Россия — Беларусь». «Ага, ага», — ківаюць галовамі маладыя работнікі завода, а той жа Анатоль Ярмоленка праз некаторы час дадасць іхняе «ага» да абсурду: «Сейчас хуже, чем было при революции...» Бясконца мусоліліся адзіная, нібыта, прычына ўсіх нашых бедаў — развал СССР, страта сувязей паміж рэспублікамі: як вытворчых (старшыня калгаса Віктар Верамейчык), так і творчых (мастачка Тамара Сакалова). Складвалася ўражанне, што мы — і галоўныя віноўнікі разбурэння, і самыя большыя ягоныя ахвяры. Наогул, самыя-самыя бядотныя, нікчэмныя, бездапаможныя.

А вяршыняю ўсяго гэтага палітычна-забаўляльнага шоу стала цынічнае прызнанне той жа студэнткі З. Луцэвіч (як і ўсюды, паўтаруся, цытую з нататніка): «Я какая-то праправнучка белорусского поэта Янки Купалы, но на английском языке мне легче говорить, чем на белорусском». І пры гэтым столькі фанабэрыі, столькі самалюбавання! Трэба было бачыць. Ды крыўдна мне зрабілася не за вялікага нацыянальнага паэта — вялікім ён не перастане быць нават калі заброснее і дзвацатае вада на кісялі, —крыўдна за «простачалавека», майго сучасніка, які не тое што не шануе адзінакроўнага (!) продка, а і здзекуецца з яго. Манкуртызм у найвышэйшай ступені.

Кажу адносна ўсіх удзельнікаў шоу-перадачы: якія б у каго ні складаліся палітычныя, нацыянальныя, творчыя погляды і сімпатыі, а да такога прыніжэння апускацца нельга. Не палюдску гэта, амаральна. Перадача «Дорога: Россия — Беларусь» (чаму, уласна, не Белоруссия?) акрэсліла якраз дарогу ў нікуды, да поўнага духоўнага спусташэння.

Дарэчы, не знайшлося ў той мэтанакіраванай перадачы месца для інтэрв'ю хаця б аднаго беларускага пісьменніка. Невыпадкова: манкуртаў у пісьменніцкіх шэрагах трэба ўсё ж пашукаць.

Не, не ўвесь быў беларускі «квет» у расійскай тэлеперадачы, і гэта — крыху — суцяшае таксама. Аптымізму дадае, у прыватнасці, тое, што на завяршэнне перадачы, за кадрам, прагучала цудоўная песня на верш Зянона Пазняка «Ave Maria», якая можа стаць, на маю думку, гімнам беларускага Адраджэння. Вось толькі самога аўтара ні тэлежурналісты, ні выканаўцы песні (А. Ярмоленка) так і не назвалі. Не рашыліся...

Алесь КАСКО

## ДАЛЕЙШЫЯ
Ахвяры на Беларускі Музэй у Гайнаўцы, Беласточчына:

| | |
|---|---|
| 24. Аляксандар Целеш | $60.00 |
| 25. Язэп Арцюх | $25.00 |
| 26. Адам Цыплякоў | $20.00 |
| 27. Мікола Галоўка | $25.00 |
| 28. Кастусь Мерляк | $25.00 |
| 29. Уладзімер Арашкевіч | $20.00 |
| 30. Грыгор Казьлякоўскі | $10.00 |
| 31. Васіль Шчэцька | $10.00 |
| 32. Уладзімер Пелеса | $25.00 |
| 33. Таіса Чабатарэвіч | $20.00 |
| 34. Адольф Тубэрт | $10.00 |
| Разам: | $250.00 |
| Папярэднія ахвяры: | $735.00 |
| Разам: | $985.00 |

*Дарагія Чытачы!!!*

Зрабеце ўсё магчымае, каб і Вашае прозьвішча зьявілася на чарговай лісьце Ахвярадаўцаў на Музэй! Пры перасылцы чэкаў, калі ласка, рабеце дакладную паметку, што прызначаецца на Музэй, а што на Газэту...

## Курсы валют на 30 верасня:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 4320 | 4460 | 2779 | 2873 |
| "Прыор" | 4320 | 4400 | 2780 | 2840 |
| "Дукат" | 4300 | — | 2750 | — |